*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# Наша слова

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 48 (260)

29 лістапада 1995 г.

Кошт — 500 рублёў

У 1920 ГОДЗЕ З БАЛЬШАВІКАМІ ВАЯВАЛІ НЕ ТОЛЬКІ СЛУЧЧАКІ *Стар. 4.*

НОВАЯ РУБРЫКА «АДСЬВЕЖАНЬНЕ» *Стар. 7.*

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **29 ЛІСТАПАДА — ПАЎТОРНЫЯ ВЫБАРЫ Ў ВЯРХОЎНЫ САВЕТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.**

○ ***БЫЛЫ ПАСОЛ РЭСПУБЛІКІ ПОЛЬШЧА Ў БЕЛАРУСІ ПРАФЕСАР ЭЛЬЖБЕТА СМУЛЭК, ПРАВОДЗЯЧЫ ЦЫКЛ ЛЕКЦЫЙ АБ БЕЛАРУСІ Ў ВАРШАЎСКІМ УНІВЕРСІТЭЦЕ,*** *на пытанне «Ці з'яўляецца Беларусь незалежнай краінай?» адказала: «Так, бо Беларусь з'яўляецца прадметам міжнароднага права, мае свой урад і парламент... Але розныя дзеянні беларускіх улад дазваляюць спекуляваць на тэму самастойнасці Беларусі...»*

○ **НАМЕСНІК ПРЭМ'ЕР-МІНІСТРА УЛАДЗІМІР РУСАКЕВІЧ ПРАВЁЎ** другое пасяджэнне Міжведамаснага Савета Беларусі па супрацоўніцтву з Саветам Еўропы. Асноўнай мэтай пасяджэння з'явілася ввучэнне пытання аб мэтазгоднасці далучэння нашай краіны да канвенцый Савета Еўропы, адкрытых для падпісання краінамі, якія не з'яўляюцца яго членамі.

○ ***НАШУ КРАІНУ НАВЕДАЛА АФІЦЫЙНАЯ ДЭЛЕГАЦЫЯ СУСВЕТНАГА БАНКА*** *на чале з дырэктарам рэгіянальнага дэпартамента панам Базілем Кавальскім. У час сустрэч у Адміністрацыі Прэзідэнта, Кабінеце Міністраў, міністэрствах і ведамствах прадстаўнікі вядомай установы абмеркавалі шэраг пытанняў па фінансаванні праграм эканамічнага развіцця Беларусі на бліжэйшыя тры гады.*

○ **У ГАРОДНІ ПРЭМ'ЕР-МІНІСТР БЕЛАРУСІ МІХАІЛ ЧЫГІР СУСТРЭЎСЯ** з летувіскім калегам Адольфасам Шляжавічусам. Быў падпісаны шэраг міжурадавых дамоў.

○ ***СПОЎНІЛАСЯ 70 ГАДОЎ, ЯК У ЭФІРЫ ГУЧАЦЬ ПАЗЫЎНЫЯ БЕЛАРУСКАГА РАДЫЁ.*** *З гэтай нагоды ў канцэртнай зале «Мінск» адбыліся ўрачыстасці, на якіх выступіў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. Выступіў на добрай беларускай мове.*

○ **АМАЛЬ 200 ТЫСЯЧ ПРАДСТАЎНІКОЎ МОЛАДЗІ** сёння атрымліваюць адукацыю ў 40 дзяржаўных і 19 недзяржаўных ВНУ нашай краіны.

○ ***ДЗЯРЖАЎНАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА «МІНСКАЯ ПОШТА» ПРАВЯЛА*** *спецыяльнае гашэнне дзвюх чарговых марак з серыі «Помнікі архітэктуры». На адной з іх адлюстраваны касцёл Івана Хрысціцеля ў вёсцы Камаі. Касцёл быў пабудаваны ў XVII стагоддзі. На другой — касцёл кармелітаў у Мсціславе.*

○ **ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!** Да канца падпісной кампаніі на беларускую перыёдыку на першае паўгоддзе 1996 года застаўся ўсяго адзін дзень. Калі вы думаеце і надалей чытаць «Наша слова», то падпішыцеся на «НС» сёння. Кошт падпіскі на адзін месяц — 3250 рублёў, на тры месяцы — 9750 рублёў, на паўгоддзе — 19500 рублёў. Індэкс 63865.

## Восем гадоў беларускай школе

*Працэс пераходу школы на беларускую мову навучання, які пачаўся некалькі гадоў таму, рушыў у адваротны бок. Друк усё часцей змяшчае паведамленні аб пераходзе навучання ў той ці іншай школе на мову суседняй дзяржавы.*

*Але сталічную сярэднюю школу № 89 новыя навевы не закранулі. Аб яе традыцыях і набытках, якія дапамагаюць захавацца гэтаму асяродку беларушчыны, карэспандэнту «Нашага слова» **У.Панаду** расказала дырэктар школы **Вера Саладуха**.*




— Пераход на беларускую мову навучання ў нашай школе пачаўся яшчэ ў 1987 годзе. Гэта значыць, што сёння вучні класаў з першага па восьмы атрымліваюць адукацыю па-беларуску.

**— Гэта было ініцыятывай настаўнікаў ці выкананнем распараджэння вашага кіраўніцтва?**

— Ніякага загаду зверху не было. Той працэс, які пачаўся тут восем гадоў таму, быў нашай уласнай спробай распрацоўкі мадэлі нацыянальнай школы. Нешта рабілася і раней: у школе адзначаліся народныя святы, дзяцей спрабавалі больш глыбока, чым гэта прадугледжвалася праграмай, знаёміць з нацыянальнай культурай. У школу запрашалі беларускіх пісьменнікаў, сюды прыходзілі на практыку студэнты вучылішча мастацтваў... Але гэта былі толькі спробы надання школе новага аблічча, мала звязаныя паміж сабою. І ўсё часцей у нас, настаўнікаў, узнікала думка: як трэба працаваць з дзецьмі, каб яны ведалі не толькі агульныя для ўсіх школ дысцыпліны, але атрымалі б адукацыю прынцыпова іншую — набылі б не толькі агульныя веды, але і далучыліся б да культурнай спадчыны свайго — беларускага, а не савецкага народа.

**— Гэта давалася лёгка?**

— Вы памятаеце 1987 год? Тады пачалася сапраўдная кампанія за адкрыццё беларускіх класаў. Гэта дало нам падтрымку ў пераадоленні

*(Заканчэнне на с.2.)*

### Наш каляндар

## У Канстанцінопалі



Славуты сын Навагарадскай зямлі, сусветна вядомы паэт Адам Міцкевіч з 1832 года жыў у Францыі. Яго папулярнасць выкарыстоўвалі розныя палітычныя групоўкі, хоць паэт і стараўся застацца незалежным і нават адышоў ад каталіцызму. Калі французскія і англійскія войскі высадзіліся ў Крыме, палякам засвяціла зорка надзеі. Спадзяванне на вяртанне незалежнасці Рэчы Паспалітай падмацоўвалася стварэннем легіёнаў, у чым была зацікаўлена Францыя. Яе ўрад фундаваў Міцкевічаву паездку ў Канстанцінопаль, фармальна

*(Заканчэнне на с.2.)*

## БАЦЬКАЎШЧЫНА — ГЭТА МЫ!

Як мы ўжо паведамлялі, 11—12 лістапада ў Менску адбылася сустрэча кіраўнікоў беларускіх суполак замежжа, якую правяло ЗБС «Бацькаўшчына». Сустрэчу гэту можна трактаваць і ацэньваць як генеральную рэпетыцыю Другога з'езда беларусаў свету, які павінен адбыцца ў 1997 г. і да якога «Бацькаўшчына» распачала ўжо грунтоўную падрыхтоўку.

У сустрэчы ўдзельнічалі больш за 200 чалавек (зарэгістравалася 148), з іх 9 чалавек з заходняга замежжа (Я.Ханенка і Я.Пацэвіч — ЗША; А.Баршчэўскі, Я.Чыквіні і А.Глагоўская — Польшча; А.Надсан, Дж.Дынглі — Вялікабрытанія; Ю.Станкевіч — Чэхія; Я.Жучка — Бельгія) і больш за 20 чалавек з блізкага замежжа — Летувы, Латвіі, Эстоніі, Украіны, Малдовы і расійскіх гарадоў Масквы, Санкт-Пецярбурга, Цвяры, Омска, адкуль прыбылі на сустрэчу А.Кірвель, М.Галуза, В.Чорны, А.Сабалеўскі, А.Глод. М.Ярчак, Л.Ярчак, Ф.Нюнька, Я.Кабановіч, І.Дзяржыцкі, П.Малафей, Г.Лапаціна, М.Астравумава, З.Клыга і інш.

Свае прывітанні даслалі беларускія суполкі і арганізацыі са Злучаных Штатаў Амерыкі, Канады, Аўстраліі, Вялікабрытаніі, Польшчы і некаторых іншых. Адкрыў сустрэчу прэзідэнт ЗБС «Бацькаўшчына» акадэмік Радзім Гарэцкі (яго выступленне публікуецца), а вялі сустрэчу старшыня Рады Ганна Сурмач і сябры Рады Анатоль Сабалеўскі ды Фёдар Нюнька.

У справаздачным дакладзе старшыня Рады Ганна Сурмач падсумавала вынікі дзейнасці арганізацыі за 5 гадоў і акрэсліла перспектывы на будучыню. Напачатку яна спынілася на гісторыі ўтварэння Згуртавання, нагадала многія даты, факты, поспехі і непаразуменні, адзначыла, што за яднаннем сыноў і дачок Беларусі, раскіданых па свеце, стаіць агромністая праца многіх людзей, якія зразумелі неабходнасць такога яднання. Найцяжэй гэты працэс праходзіў у самой Беларусі, бо толькі некаторыя інтэлігенты асмельваліся пры савецкай уладзе падтрымліваць сувязь з замежнымі суайчыннікамі. І толькі на хвалі сучаснага адраджэння нацыі ідэя ўтварэння Згуртавання беларусаў пачала набываць рэальныя абрысы.

Дакладчыца прааналізавала культурную працу і фінансавую дзейнасць арганізацыі, назвала важнейшыя мерапрыемствы, якія былі праведзены «Бацькаўшчынай» з удзелам Міністэрства культуры і іншых грамадскіх арганізацый (фестывалі, вандроўкі, святкаванні памятных дат, Першы з'езд беларусаў блізкага замежжа і Першы з'езд беларусаў свету, выдавецкая дзейнасць, правядзенне навуковых канферэнцый, падтрымка беларускіх музеяў і многае іншае). Доўгі час «Бацькаўшчына» клапацілася аб сабе сама, стварыўшы гаспадарчую структуру. Арганізацыя змагла фінансава стаць на ногі настолькі, каб правесці напалову з дзяржавай у 1993 г. Першы з'езд беларусаў свету. Аднак у сучасных умовах самастойная фінансавая дзейнасць немагчыма. Існуе мноства абмежаванняў, адсутнічаюць ільготы па падатках, у той час як беларускія арганізацыі ў іншых краінах ад іх амаль цалкам вызвалены. «Мы пастаўлены ў такія ж умовы, што і цяперашнія шматлікія бізнесмены, якія зарабляюць грошы любым шляхам і ездзяць на шыкоўных машынах, — сказала Г.Сурмач. — У сувязі з непрадбачаным мнагакратным павелічэннем аплаты за арэнду памяшкання, ацяпленне, святло і тэлефоны з нас знята льгота за арэнду і цяпер мы плацім за сваю сядзібу як прыватныя прадпрымальнікі». Зараз, — канстатавала Г.Сурмач, — згуртаванне знаходзіцца ў складаным фінансавым становішчы.

Дакладчыца спынілася таксама на функцыях арганізацыі, акрэсліла дзялянку яе дзейнасці. Галоўнай задачай замежных беларусаў, на яе думку, з'яўляецца захаванне беларускай прысутнасці ў сваіх краінах, што можа сёння аказаць вялікую падтрымку нашай айчыне ў гэты складаны час і ўвогуле захаваць нашу прысутнасць у свеце. Тры чыннікі ўдзельнічаюць у той справе, якую абрала мэтай сваёй дзейнасці ЗБС «Бацькаўшчына», — гэта беларуская дыяспара, беларуская дзяржава і грамадскія сілы. Цікавымі і ёмістымі былі раздзелы даклада, прысвечаныя праблемам заходняй і ўсходняй дыяспараў (публікуюцца).

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

**Ірына КРЭНЬ.**

***Заканчваецца падпіска на «Наша слова»! Наш індэкс 63865.***

Наш каляндар

## У Канстанцінопалі

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1.)*

даручаючы яму даследаваць становішча славянскіх народаў у атаманскай імперыі.

Але галоўнай мэтай Міцкевічавай вандроўкі было імкненне эмігрантаў з былой Рэчы Паспалітай памірыць землякоў: вайсковыя аддзелы Міхала Чайкоўскага, мусульманіна, вядомага пад імем Садык-паша, і клерыкала, заўзятага каталіка Уладзіслава Замойскага, які намерыўся ствараць легіёны, абапіраючыся на дапамогу Англіі.

У Канстанцінопаль Адам Міцкевіч прыплыў 22 верасня. Неўзабаве ён з таварышамі наведаў лагер Садыка-пашы каля порта Бургас. Міцкевічу спадабалася нацыянальная і рэлігійная цярпімасць у войску Чайкоўскага, а да таго ж яны пабачылі спраўна навучаных «султанскіх казакоў». Пасланцы палічылі, што Чайкоўскаму і належыць кіраваць усімі польскімі аддзеламі, у тым ліку і казачым палком, каторы сабраў Замойскі. Але той перайшоў да англічан. Такім чынам, асноўная місія Адама Міцкевіча не была ўдалай. Але паэт не здаваўся. Апроч намаганняў паяднаць землякоў, ён імкнуўся ствараць шматнацыянальныя легіёны пад камандаваннем таго ж Садыкапашы. Туды намерваліся ўключыць балгарскія вайсковыя аддзелы, а таксама жыхароў Малдавіі і Валахіі, усіх хрысціян Турэччыны. З дапамогай свайго сакратара Армана Леві, французскага яўрэя, Адам Міцкевіч звярнуўся да турэцкага ўрада па дапамогу, каб ствараць яўрэйскія вайсковыя аддзелы. Гэты праект зарадзіўся яшчэ ў лагеры Садыкапашы. Паэта натхніў «від жаўнераў-яўрэяў, што служылі пад харугвамі атаманскіх казакоў». Здзяйсненню намераў перашкодзіла хвароба і раптоўная смерць.

25 лістапада Адам Міцкевіч яшчэ «з'еў абед з апетытам: печанае кураня і выпіў паўбутэлькі віна». 26 лістапада раніцай паэт пачуваўся няблага, хаця і сказаў, што адчувае слабасць. Але ні ён, ні сакратар і не падумалі выклікаць доктара. А дзесятай гадзіне Адам Міцкевіч атрымаў ад Садыка-пашы добрыя весткі, пасля доўга размаўляў з палкоўнікам Кучынскім, які камандаваў палком атаманскіх казакоў. Каля паловы дванаццатай ён пачуў млоснасць і лёг у ложак. Але, відаць, ніхто не адчуваў небяспекі здароўю паэта, а таму неўзабаве сакратар пайшоў па справах. Калі праз пару гадзін ён вярнуўся, то даведаўся ад гаспадыні дома, што паэт канае. Ён падняўся на другі паверх, дзе іх спадарожнік Генрык Служальскі сказаў яму: «Мой бедны сябра, ён гіне. Гэта халера».

Тым часам прыйшло шмат дактароў-палякаў. Адаму Міцкевічу давалі лекі, але ён не хацеў іх прымаць, а толькі запытаў у сакратара, што кажуць дактары. У адказ на словы, што ён можа памерці, Міцкевіч папрасіў паклікаць ксяндза Лаўрыновіча, ліцвіна. Ёнхацеў дыктаваць тастамант, але не меў сілы. Паміж прыступамі хваробы Міцкевіч размаўляў з сябрамі. Уражваюць ягоныя словы, сказаныя ў адрас дактароў: «Не ведаюць, што мне, хочуць мяне разагрэць, а я ўвесь у агні».

А 21 гадзіне 26 лістапада 1855 года Адам Міцкевіч скончыў жыццё «прытомным, з смутным поглядам, нічога не кажучы». Ксёндз Лаўрыновіч у апошні момант намасціў яго, а сакратар закрыў ягоныя вочы.

27 лістапада цела Адама Міцкевіча забальзамавалі.

Як і пры жыцці, пасля смерці вялікага паэта ягонае імя выкарыстоўвалася ў палітычных спрэчках. Магчыма, ужо тады з'явілася меркаванне, што Адама Міцкевіча атруцілі. Такой думкі прытрымліваліся і некаторыя землякі паэта. А, прыкладам, вядомы польскі літаратар Тадэвуш Бой-Жэленьскі быў перакананы, што Адам Міцкевіч памёр не ад халеры.

З.С.

У газетах

## Станіслаў Багданкевіч закрануў нацыянальнае пытанне...

«...Стары эканаміст і малады палітык, як ахарактарызаваў сябе С.Багданкевіч, лідэр Аб'яднанай Грамадзянскай партыі, дакладна і коратка падаючы тэзісы аб дзейнасці сваёй партыі, не абыходзіў вострых пытанняў з залы. «Калі мы хочам гандляваць сваёй незалежнасцю, то нічога не атрымаем», «У нас не павінна быць нацыяналізму. Панславянскага нацыяналізму таксама», «У мяне няма вялікай сімпатыі да свайго народа. Ён заслугоўвае таго, чаго заслугоўвае», — вось некаторыя з рэплік, тэму якіх напорыста і даходліва развіваў былы галоўны банкір нашай краіны, а сённяшні старшыня новай партыі, 58-гадовы бацька нованароджанага Паўла».

*(«Рэгіянальная газета», № 28, 1995 г.)*

## Ваенныя ветэраны Гародні пішуць ветэранам Смаргоні, што «полку БНФ прыбыло...»,

бо да іх прыехаў балатавацца ў ВС лідэр БНФ Зянон Пазьняк, і надта ўшчуваюць старых смаргонцаў, як гэта тыя дапусцілі падобную дэмакратыю.

*(«Пагоня», № 41, 1995 г.)*

## Чаму ж праект Звароту не стаў зваротам?

«...Міністэрства культуры і друку сумесна з Гарадзенскім албыканкамам правялі «круглы стол» па праблемах нацыянальных меншасцяў. У яго працы ўдзельнічалі кіраўнікі усіх зарэгістраваных у вобласці нацыянальных суполак, прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі (СМІ), а таксама старшыня Гарадзенскага абласнога Савета дэпутатаў Сямён Домаш і намеснік міністра культуры і друку Іван Карэнда.

«Будзьма разам цяпер, каб на мове гэтай зямлі і мовах народаў, што знайшлі тут свой дом, годна гучала слова праўды. Каб ніколі ні дзе не брала верх палітыка нацыянальнага шавінізму, не гучалі заклікі да забыцця і бяспамяцтва, не ўзнікалі міжнацыянальныя спрэчкі». Гэтыя добрыя і правільныя словы з праекта Звароту «круглага стала» да супрацоўнікаў СМІ, на вялікі жаль, так і не сталі Зваротам. Тэкст яго чамусьці не паставілі нават на галасаванне. І не таму, што прысутныя былі не згодны з ім. Якраз наадварот...»

*(«Пагоня», № 41, 1995 г.)*

Падрабязнасці

**Радзім ГАРЭЦКІ, прэзідэнт ЗБС «Бацькаўшчына»**

## Мы выбіраем жыццё

3 гады таму (19.12.92) адбыўся Сход беларусаў блізкага замежжа і трохі больш як 2 гады таму (29.07.93) — Першы з'езд беларусаў свету. Неабходна абмеркаваць супольныя праблемы беларускай дыяспары ў кантэксце сённяшняй сітуацыі ў Беларусі.

У тыя часы, якія я вам нагадаў, хаця і марудна, але працэс нацыянальнага адраджэння пачаў ісці. Была прынята Дэкларацыя аб незалежнасці Беларусі, а потым — даволі дэмакратычная Канстытуцыя РБ. Былі прыняты добрыя законы аб дзяржаўнасці беларускай мовы, гістарычных сімвалах, адкрываліся беларускія школы, ліцэі, садкі, з друку выйшлі многія выданні па гісторыі, культуры Беларусі, вярнуўся да нас шэраг прэрсаваных твораў, у тым ліку аўтараў беларускага замежжа, была прынята дзяржаўная праграма «Беларусы ў свеце» і г.д.

Мы змаглі тады наладзіць сумесную працу з многімі суполкамі і арганізацыямі беларусаў, якія даўно дзейнічалі ў далёкім замежжы і былі нанава створаны ў блізкім замежжы.

Але сучаснае кіраўніцтва рэспублікі аказалася прамым пераемнікам урада В.Кебіча. Апошні некалькі разоў нават пацвердзіў гэта ў сваіх інтэрв'ю. Перамен фактычна ніякіх не атрымалася, наадварот, паявіліся ранейшыя тэндэнцыі. Так, калі кебічаўцы гаварылі толькі аб эканамічнай інтэграцыі з Расіяй, аб адзінай «рублёвай зоне», дык зараз ужо ідзе падрыхтоўка і да палітычнага аб'яднання. Усё гэта на фоне далейшага падзення эканомікі, развалу народнай гаспадаркі. За мяжой беднасці ўжо большая частка нашага насельніцтва.

Ганебны рэферэндум, які быў праведзены пад вялікім уціскам улад і дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі, а таксама з многімі парушэннямі, прывёў да ліквідацыі гістарычных сімвалаў Беларусі і зноў паставіў беларускую мову на мяжу не выжывання. Як вельмі правільна нядаўна адзначыў Старшыня ВС РБ Мечыслаў Грыб на IV з'ездзе ТБМ:

«Няма мовы — няма нацыі, няма нацыі — няма дзяржавы». Людзі краіны не адчуваюць сябе спакойна, стабільнасці ў рэспубліцы няма, расце крымінальная небяспека. Прэстыж Беларусі падае, чаму асабліва спрыяюць такія нецывілізаваныя з'явы апошняга часу, як збіванне дэпутатаў Вярхоўнага Савета, забарона свабодных прафсаюзаў, гісторыя з падручнікамі і экзаменамі ў ВНУ, забарона шэрагу газет і тэлеперадач, процістаянне Прэзідэнта і парламента (якія «зажраліся», прынялі «кепскія» законы і г.д.), забойства двух грамадзян ЗША на паветраным спартыўным шары, прызнаная судом неканстытуцыйнасць многіх выдадзеных Прэзідэнтам указаў і г.д. Ужо некалькі разоў раздаваліся выказванні аб прамым прэзідэнцкім праўленні. Усё гаворыць пра тое, што ў краіне можа запанаваць дыктатарскі рэжым.

Такія адносіны прыводзяць да таго, што, напрыклад, за апошнія паўтара года інвестыцыі ў суседнюю значна меншую Летуву склалі больш за 400 млн. долараў, а ў Беларусь — у мінулым годзе — 93 млн., а ў гэтым — усяго 2,7 млн. дол., што замежныя прадпрымальнікі баяцца мець справу з Беларуссю і раяць адзін аднаму працаваць ужо лепш у Расіі. Там хоць цяжкасці і войны, але нешта можна прадбачыць.

Палітычны курс сучасных улад Беларусі, дарэчы, нядаўна выразна выказаў сакратар ЦК ПКБ, кіраўнік фракцыі камуністаў новага Вярхоўнага Савета Васіль Новікаў: «Сегодня в СНГ, в Европе, да и, пожалуй, во всем мире широко известно, что именно Беларусь на уровне государственной политики целеустремленно прокладывает курс из Беловежья к древнему московскому Кремлю».

Зараз Беларусь могуць выратаваць толькі хуткія дэмакратычныя рэформы і аб'яднанне грамадскасці на грунце беларускага нацыянальнага шляху і перш за ўсё — вакол дзяржаўніцкай ідэі. Многае залежыць, якім будзе новы Вярхоўны Савет.

ЗБС «Бацькаўшчына» — не палітычная арганізацыя, але стаіць за самастойнасць Беларусі, за яе моцную дзяржаўнасць, за нацыянальнае адраджэнне ва ўсіх сферах — эканомікі, культуры, мовы, адукацыі і інш., бо без гэтага нацыі не выжыць. Ад аб'яднання беларусаў усяго свету — блізкага і далёкага замежжа, і асабліва тутэйшых беларусаў, ад іх намаганняў, самасвядомасці і імпэту залежыць, ці будзем мы жыць, ці загінем як своеасаблівы народ. Мы павінны выбраць жыццё! Няхай жыве беларуская ідэя і жыве Беларусь!

# Восем гадоў беларускай школе

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1.)*

цяжкасцей — а іх хапала. Стварыць першы беларускі клас (бо ж апошняя сталінская беларуская школа была закрыта ў 1972 годзе) было вельмі цяжка. Не было настаўнікаў, якія маглі б узяць гэты клас і выкладаць усе прадметы па-беларуску. Дапамагла наша колішняя выкладчыца — тады ўжо пенсіянерка, якая ў беларускіх школах працавала яшчэ ў час, калі яны былі прэстыжнымі. Праблемай быў і набор вучняў у клас, бо ў перспектыўнасці беларускай адукацыі найперш трэба было пераканаць бацькоў нашых вучняў.

**— І якімі ж былі вашыя аргументы на карысць беларушчыны тады, у савецкі час?**

— Школа, якая мае быць прэстыжнай, мусіць даваць адукацыю, лепшую за іншыя. Менавіта такім мы імкнуліся зрабіць свой першы беларускі клас і таму абяцалі бацькам вучняў шмат: поўнае забеспячэнне беларускімі падручнікамі, экскурсіі ў музеі, сустрэчы з пісьменнікамі... І ўсё гэта мы выканалі. Хаця за падручнікамі нам даводзілася ездзіць ажно ў Гродзенскую вобласць, дзе ў сельскіх школах былі поўны іх збор. Усім дзецям зрабілі народныя строі і з імі займаліся народнай музыкай, спевамі і танцамі паводле адмысловай, складзенай намі праграмы. Вучням набылі музычныя інструменты, забяспечылі іх усімі патрэбнымі тэхнічнымі сродкамі. Так мы набралі шаснаццаць дзяцей і адкрылі беларускі клас.

**— Але ж адным класам, як многія іншыя школы, вашая не абмежавалася?**

— Так. Прайшоў год, і мы задумаліся, што рабіць далей? Бо ж існаванне ў школе адзінага беларускага класа нагадвае стварэнне рэзервацыі, а не развіццё сістэмы нацыянальнай адукацыі. А мы не хацелі, каб клас успрымаўся людзьмі, як нейкае адхіленне ад нормы, якой стала навучанне па-расійску. Таму было вырашана працягваць пачатую справу аднаўлення нацыянальнай школы. Гэтую ідэю падтрымалі нашыя настаўнікі, сярод якіх былі не толькі беларусы, а і ўкраінцы, палякі, расійцы, татары, нават адна армянка, і ў школе для іх былі арганізаваныя курсы дасканальнай мовы. Праз паўгода Інстытут удасканалення настаўнікаў прыняў у нас экзамены. Усе атрымалі дазвол весці выкладанне па-беларуску.

**— А ці мелі вы праблемы з наборам дзяцей у беларускія класы?**

— Наша школа знаходзіцца ў рабочым раёне горада. Бацькі школьнікаў — работнікі бліжэйшых заводаў — будаўнічых матэрыялаў, «Інтэграла», «Крыёна». Гэта людзі не прыезджыя, а свае, многія з іх нарадзіліся і выраслі ў вёсцы, і таму тлумачыць ім, што такое беларуская мова і навошта яна патрэбная, не даводзілася. Таму пасля некалькіх сустрэч з бацькамі, якія адбыліся і ў школе, і на тых жа заводах, мы ў наступным годзе набралі ўжо шэсць першых класаў з беларускай мовай навучання.

Дарэчы, акрамя падтрымкі бацькоў, мы мелі значную дапамогу ад гарадскога бацькоўскага камітэта беларускамоўных школ і класаў, які патрабаваў ад міністэрства і гарадскога ўпраўлення адукацыі дапамогі такім школам, як нашая. Таму яшчэ праз год мы мелі ўжо поўны збор беларускіх падручнікаў для пачатковых класаў, а цяпер маем іх для ўсіх — нават замежнай мовы.

**— Гэта таму, што вашая школа імкнецца быць першай сярод іншых?**

— Мы імкнёмся вярнуць беларускай школе страчаны ёю прэстыж. І таму менавіта ў нас праводзіўся гарадскі настаўніцкі семінар «Адраджэнне нацыянальнай школы». На ім мы наладзілі сувязі з Беларускім універсітэтам культуры, адзін з выкладчыкаў якога таксама працуе над канцэпцыяй нацыянальнай школы. Гэтымі распрацоўкамі карыстаемся і мы, уключаючы ў навучальны план вывучэнне не толькі беларускай мовы, але і культуры. Гэта — гульні, танцы, музыка, мастацтва слова, выяўленчае мастацтва, мастацкая праца — вышыўка, выцінанка, работа з глінай, ткацтва. Магчыма, для хлопцаў у гэты спіс мы ўключым і кавальства.

**— Для адных беларускасць — гэта фальклор, для другіх — лад думак. Ці не абмяжоўвае вашых навучэнцаў гэтая скіраванасць да вывучэння старых звычаяў?**

— Не хачу сказаць, што наш варыянт найлепшы і адзіны. Але беларуская дзяржава сёння не мае ўвогуле ніякай канцэпцыі нацыянальнай адукацыі. Гэта значыць, у іншых школах няма нават часткі таго, што ёсць у нас. А тое, што нацыянальная культура не выходзіць за рамкі фальклору, — гэта хутчэй адлюстраванне рэчаіснасці, якая залежыць не ад педагогаў.

**— Змены ў вашай школе супалі з уздымам нацыянальнага і дэмакратычнага руху, з часам спадзяванняў на лепшае. Што адчуваеце вы цяпер?**

— Асабіста для мяне змянілася не так ужо і шмат. Я, як і раней, дырэктар школы. І ніводзін з бацькоў маіх вучняў у гэтым годзе не прыйшоў да мяне, каб сказаць: «Я хачу, каб маё дзіця навучалася па-расійску». Мы без праблем набралі тую ж колькасць вучняў, што і ў мінулыя гады, а жадаючых вучыцца ў «фальклорным» класе аказалася намнога больш, чым мы маглі прыняць. Ніхто з настаўнікаў не сышоў ад нас у час пераходу на беларускую мову, ніхто не сыходзіць і цяпер.

Таму адзінае, што я адчуваю, гэта давер школьнікаў, іхніх бацькоў і настаўнікаў. На ім і трымаецца наша школа.

**— Вы разлічваеце толькі на ўласныя сілы. Але ж існуе ТБМ — арганізацыя, мэты якой супадаюць з вашымі...**

— Як я ўжо казала, мы пачалі сваю працу даўно — за тры гады да стварэння Таварыства. Але з моманту яго заснавання і да сённяшняга дня — за гэтыя пяць гадоў ніводзін з функцыянераў ТБМ да нас не завітаў. Тым не менш, мы робім сваю справу, бо намі кіруе пачуццё адказнасці не перад нейкай арганізацыяй, а перад будучыняй нашага народа.

*Ганна СУРМАЧ, старшыня Рады ЗБС «Бацькаўшчына»*

# За межамі краіны жыве 3,5 мільёна беларусаў

## Заходняя дыяспара

Беларускія суполкі ў краінах заходняга свету маюць, як вядома, больш працяглы вопыт арганізаванае дзейнасці, чым ва ўсходняй дыяспары. Многія дзесяцігоддзі менавіта яны былі захавальнікамі ідэй нацыянальнага адраджэння і дзяржаўнай самастойнасці Беларусі. Вялікая наша ўдзячнасць ім за гэта! Мы памятаем, што адраджэнскія ідэі ў той час на самой Бацькаўшчыне не карысталіся павагаю і нават былі аб'яўленыя афіцыйнаю прапагандаю варожымі беларускаму народу. Адсюль і ўся заходняя дыяспара была залічаная да ліку ворагаў. І нават калі гэтыя ні ў чым не вінаватыя людзі прыехалі на радзіму праз 50 гадоў на свой першы з'езд, усё яшчэ знайшліся на Беларусі тыя, хто абразліва выказаўся пра гэта. Прыкра, што сярод іх аказаўся і Прэзідэнт нашай краіны. Думаю, што мы не знойдзем сёння ніводнай краіны ні на Усходзе, ні на Захадзе, дзе б так прымалі сваіх замежных суродзічаў. Але беларусы ў Англіі, Францыі, Амерыцы, Канадзе, Аўстраліі вытрымалі ўсе выпрабаванні лёсу, выпрабаванні на вернасць Бацькаўшчыне. Самае галоўнае, што яны зрабілі, — гэта стварылі і замацавалі беларускую прысутнасць у сваіх краінах. Вельмі важна, што гэтая прысутнасць мае толькі станоўчыя характарыстыкі. Нашы землякі паказалі сябе працавітымі, сумленнымі, здольнымі, культурнымі людзьмі, якія нічым не заплямілі ні сябе асабіста, ні нашу беларускую нацыю. Варта адзначыць, што дзяржавы, у якіх сёння ёсць беларускія асяродкі, належаць да ліку найбольш цывілізаваных у свеце. І сёння для Беларусі на яе цяжкім шляху да незалежнасці і дабрабыту беларуская прысутнасць там магла б мець істотную значнасць. Але, як ні дзіўна, аказваецца, нашым уладам гэта зусім не патрэбна. Тым часам назапашана мноства прапаноў, ідэй, якія з карысцю можна было ажыццявіць у нас дома з дапамогаю замежных беларусаў. Кіраўніцтва ЗБС спрабавала давесці ўсё гэта да афіцыйных улад. Спрабавалі напачатку трапіць на прыём да міністра замежных спраў, але атрымалі адмоўны адказ. З таго часу «Бацькаўшчына» не мае ніякіх службовых кантактаў з гэтым міністэрствам, што, безумоўна, не можна лічыць нармальнай з'явай!

І прыклад гэты не адзіны. Многія з замежных беларусаў спрабавалі выйсці са сваімі прапановамі аб супрацоўніцтве ў высокія чыноўныя кабінеты, але не адчулі там ніякай зацікаўленасці. Так сталася з групаю прадстаўнікоў беларускага бізнесклуба ў Польшчы. На свае вочы назірала, як без інтарэсу ў некаторых афіцыйных службах прымалі Міколу Прускага. Усе мы ведаем гэтага сціплага працавітага чалавека з амерыканскага горада Грэнд-Рэпідс каля Дэтройта, які паходзіць з роду Якуба Коласа. У сваёй хаце ўласнымі сіламі ён выдае газету «Беларускі дайджэст». Ужо шмат гадоў ён з'яўляецца экспертам вялікай дабрачыннай фірмы, якая аказвае дапамогу людзям ва ўсіх краінах свету. І вось гэту сваю магчымасць сп.Прускі як найлепш скарыстаў для Беларусі. Ужо шэсць разоў з яго дапамогаю сюды накіроўваліся лекі, медыцынскае абсталяванне, адзенне. Вясною гэтага года з дапамогаю сп. Прускага «Бацькаўшчына» размеркавала па бальніцах больш за 10 тон дабрачыннай дапамогі. За гэтыя лекі і абсталяванне трэба было там, у Амерыцы, заплаціць каля 5 тыс. долараў. Гэтыя грошы заплаціў сам сп.Прускі і яшчэ адзін шчыры беларус з Амерыкі Анатоль Лук'янчык. Але ж калі сп. Прускі папрасіў нас дапамагчы без чаргі праехаць праз мяжу з Польшчаю на радзіму жонкі на Беласточчыне, нам так і не ўдалося дапамагчы, хоць мы звярталіся ўсюды. Нам вядома таксама, як нявветліва сустрэлі ў аэрапорце ў Менску Віталя і Зору Кіпеляў з Нью-Йорка, якія везлі для бібліятэк Беларусі беларускія кніжкі, выдадзеныя ў Амерыцы, каб імі тут маглі карыстацца навукоўцы і студэнты.

У верасні 1994 г. у Таронта адбылася 21 сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі, якія ладзяцца раз у два гады і сталі важнай падзеяй у жыцці амерыканскіх беларусаў. На папярэдняй, праведзенай у Кліўлендзе (ЗША), з Беларусі прысутнічала нямала гасцей, у тым ліку і высокіх афіцыйных асоб. На гэтай жа сустрэчы не было ўжо нікога ні ад пасольства, ні ад іншых афіцыйных структур. Удзельнікі і арганізатары сустрэчы, канадскія беларусы, чакалі, што хоць нейкае прывітанне атрымаюць з роднай краіны, не дачакаліся, самі накіравалі зварот да новага Прэзідэнта Беларусі, але і ён застаўся без адказу. І вось нядаўна сам Прэзідэнт пабываў з афіцыйным візітам у ЗША. Але ў праграму візіту не была ўключана сустрэча з амерыканскімі беларусамі. Да нас дайшлі звесткі, што Прэзідэнту параілі не ўключаць такую сустрэчу ў праграму таму, што беларусы з ЗША негатыўна настроены да яго. Я думаю, што пасля ўсяго, што было сказана вышэй, асабліва пасля змены дзяржаўнай сімволікі, цяжка было б чакаць іншых адносін. Але Прэзідэнту ўсё роўна было б карысна сустрэцца з гэтымі адданымі беларускай справе людзьмі. Замест гэтага адбылася, як паведамлялася ў друку, сустрэча з бізнесменамі — выхадцамі з Беларусі. Нам невядома, хто менавіта гэтыя людзі. Застаецца спадзявацца, што яны не такія, як гэтак званыя «новыя рускія», з якімі амерыканскія ўлады маюць ужо мноства клопатаў. Увогуле, гэта ўжо становіцца сталаю практыкай, што беларускія дэлегацыі ў розных краінах ахвотна сустракаюцца з тымі, якіх сродкі масавай інфармацыі потым звычайна называюць проста «выхадцамі з Беларусі», і не маюць ніякіх кантактаў з нацыянальна свядомымі беларускімі арганізацыямі, як гэта было ў Санкт-Пецярбургу. У гэтай сітуацыі амерыканскія беларусы выйшлі да будынка ААН з акцыяй пратэсту супраць палітыкі сучасных беларускіх улад. І гэта іх права — выказваць свае думкі, сваю пазіцыю. Яны вельмі доўга чакалі, калі Бацькаўшчына стане незалежнай дзяржавай, і не хочуць страчваць сваю надзею, прадаўжаць змагацца за яе.

Нягледзячы на тое, што заходняя дыяспара не мае зараз належнай падтрымкі з Беларусі, яна прадаўжае жыць сваім актыўным жыццём. Але мы мусім прызнаць, што тут ёсць і вельмі трывожныя сімптомы. Большасць беларускіх асяродкаў на Захадзе складаюць людзі сталага ўзросту. Іх мудрасць, іх вопыт падтрымліваюць там агеньчыкі беларускага жыцця. Але ім патрэбна маладая змена. Пусцеюць створаныя імі культурныя цэнтры, храмы. Ёсць пагроза таго, што наша прысутнасць многа дзе можа быць страчаная. З сумам хачу сказаць, што сям-там гэта ўжо адбылося ранейсілавымі метадамі — у Чэхаславакіі, у Германіі, у краінах Паўднёвай Амерыкі. Дзякуючы намаганням савецкіх спецслужбаў беларускія асяродкі там былі амаль цалкам знішчаныя. І хоць сёння і жывуць там яшчэ нашы суродзічы, аб'яднання сярод іх няма і дапамога ім у гэтым неабходная.

Сумна глядзець, як заціхае беларускае жыццё ў Брэдфардзе і Манчэстэры ў Англіі, у Францыі і інш. месцах. Пакуль што яшчэ мнагалюдна і весела бывае ў беларускіх культурных цэнтрах у Саўт Рыверы і Кліўлендзе, у Нью-Йорку і Чыкага (ЗША), у Таронта (Канада), у раскіданых па аўстралійскім кантыненце беларускіх клубах і культурных асяродках. Асабліва ў нядзелі і святочныя дні, калі нашы далёкія суродзічы збіраюцца на службу ў цэрквы. Менавіта цэрквы спрыялі аб'яднанню беларускай грамады. Але і тут задумваешся пра будучыню. Больш прагматычная, з простым жыццёвым інтарэсам новая эміграцыя рэдка далучаецца да сталых беларускіх цэнтраў з іх нацыянальна-культурным жыццём. Не ўсе выхадцы з Беларусі ведаюць сваю культуру і мову. Іх больш вабіць эканамічны бок справы. Зараз у «Бацькаўшчыну» часам звяртаюцца людзі, якія выязджаюць на сталае месца жыхарства ў ЗША па вядомай латарэі. Мы стараемся даць ім адрасы беларускіх суполак, каб яны далучаліся да іх. Добра было б, каб іх там гасцінна прымалі. Слушна зараз многімі эмігрантамі ставіцца пытанне аб тым, каб нейкім чынам дамагчыся ўстанаўлення квот на прыём эмігрантаў з Беларусі ў розных краінах, скажам, у ЗША, Англіі, Аўстраліі і г.д. Гэтага магчыма дабіцца толькі па дзяржаўных каналах. Але варта было б паспрабаваць, бо для гэтага ёсць падставы: сталая беларуская прысутнасць у гэтых краінах і нашы чарнобыльскія праблемы, якія ставяць пад пытанне фізічнае выжыванне нацыі. Можа, нехаму гэта ідэя і падасца нерэальнай, але гэта зусім не азначае, што такога не можа быць. Адным словам, трэба клапаціцца ўжо цяпер, каб беларуская справа ў далёкім замежжы працягвалася і ўсё, што было зроблена нашымі суайчыннікамі, не загінула ў віры жыцця, а стала падмуркам для новай хвалі беларусаў, якія знову мусяць шукаць шчасця ў чужых краях, зняверыўшыся знайсці яго ў сябе на радзіме. І для Беларусі трэба будзе таксама патрэбна, бо праз гэтых людзей яе таксама будуць спазнаваць у шырокім свеце.

## Усходняя дыяспара

Усходняя беларуская дыяспара фарміравалася стагоддзямі. Асабліва імкліва гэты працэс адбываўся ў час знаходжання беларускіх зямель у складзе Расійскай імперыі, а потым СССР. Але яна была амаль зусім не арганізавана. І толькі пасля распаду СССР, пасля Сходу беларусаў блізкага замежжа і З'езда беларусаў свету тут пачаў ажыўляцца і набываць сілу беларускі рух. Зараз амаль у кожнай з краін, паўсталых на тэрыторыі былога СССР, сёння існуюць беларускія суполкі. Большасць з іх створана, пасля Сходу беларусаў блізкага замежжа і З'езда беларусаў свету. Раней стала працавалі беларускія арганізацыі толькі ў Маскве і Санкт-Пецярбургу. А цяпер там стварыліся і новыя арганізацыі. У цэлым па Расіі, у розных рэгіёнах, жыве многа беларусаў. Апошнім часам актывізавалася беларуская грамада ў такім вялізным рэгіёне Расіі, як Сібір. Створана суполка «Беларусы Сібіры», якая мяркуе аб'яднаць нашых суродзічаў з розных месцаў гэтага краю. На сібірскіх прасторах зараз жыве мноства выхадцаў з Беларусі, якія трапілі туды яшчэ з далёкіх часоў як ссыльныя, перасяленцы, раскулачаныя, рэпрэсіраваныя, пасланыя на новабудоўлі савецкага часу, нафтавікі. У Сібіры і на Далёкім Усходзе захаваліся запаветныя беларускія куточкі, якіх зараз няма ў самой Беларусі. Гэта цэлыя вёскі, у якіх жывуць беларускія перасяленцы яшчэ з канца мінулага стагоддзя. Гэтыя людзі гавораць на той мове і спяваюць тыя песні, якія перайшлі да іх ад прадзедаў. Іх побыт, фальклор трэба даследаваць навукова. Давodзілася сустракаць мне там і нашчадкаў былых беларускіх паўстанцаў мінулага стагоддзя. Асобна хацелася б сказаць пра беларусаў-нафтавікоў. Шырока вядома, што ў сібірскіх раёнах здабычы нафты і газу працавала і працуе зараз мноства беларусаў. Знакаміты нафтавы горад Лангепас пабудаваны амаль цалкам рукамі беларусаў. Нядаўна адзначалася 10-годдзе горада, і вось у гэтыя святочныя дні нашы землякі, як пісалася ў друку, адчулі, што яны там толькі госці, а сапраўдныя гаспадары, заходнія нафтавыя кампаніі, ужо прыбіраюць да сваіх рук іх працу. Беларусы зрабілі справу і хутка стануць непатрэбнымі. Які лёс іх чакае, хто сёння думае пра тое, каб абараніць інтарэсы гэтых людзей, задаволіць іх патрэбы ў культурным жыцці, даць ім паслухаць беларускую песню, пачуць роднае слова. У расійскай нафце, якую мы купляем, ёсць многа беларускага поту, але яна тым часам усё даражэе для нас. У гэтай сувязі хацелася б згадаць пра нашага знакамітага земляка ў Сібіры, які мае непасрэднае дачыненне да нафтавых пытанняў, акадэміка Андрэя Трафімука. Сп. Трафімук нарадзіўся на Кобрыншчыне ў 1911 годзе і пакінуў радзіму ў 4-гадовым узросце разам з бежанцамі-бацькамі. Ён стаў сусветна вядомым вучоным у галіне нафта- і газаздабычы. Нядаўна ён стаў лаўрэатам дзяржаўнай прэміі Расіі і перадаў яе ў Беларусь для чарнобыльскіх дзяцей. У чэрвені гэтага года мне давялося пабываць у Новасібірску і трапіць у акадэмгарадок, дзе зараз жыве сп. Трафімук. Наша размова была сумная. Акадэмік з'яўляецца аўтарам «канцэпцыі стварэння буйных баз газанафтаздабычы ва Усходняй Сібіры», распрацаванай ім у некалькіх варыянтах у 1987 і 1991 гадах. У ёй вынік усёй шматгадовай працы гэтага чалавека, канцэнтрацыя яго навуковага і практычнага вопыту, на падставе якога ён абгрунтоўвае канкрэтную праграму забеспячэння нафтай Расіі ў будучым. Але тут ён успамінае і пра сваю радзіму — Беларусь і ў гэтыя яго распрацоўкі ўключана прапанова, якая забяспечвала б і інтарэсы нашай краіны. Маецца на ўвазе сумеснае асваенне нафтавых супергігантскіх радовішчаў ва Усходняй Сібіры. Беларусы, якія столькі працы ўклалі ў асваенне сібірскіх нафтаздабываючых раёнаў, маюць права на сваю долю сапраўды таннейшай нафты. Са сваёй канцэпцыяй ён звяртаўся як да ўрада Расіі, так і да Прэзідэнта Беларусі. Але атрымаў адсюль толькі кароценькае пісьмо аб тым, што яго прапановы перададзены да разгляду адпаведным структурам. А гэты чалавек у любым выпадку мог бы быць вельмі карысным Беларусі, бо ён спецыяліст, якіх у свеце адзінкі ў галіне нафтаздабычы, і менавіта ад яго можна было атрымаць найлепшую кансультацыю ў адносінах да перспектыў забеспячэння нашай краіны энерганосьбітамі.

Беларусам Сібіры трэба аб'ядноўвацца, каб наладзіць сваё нацыянальна-культурнае жыццё, дапамагчы адзін аднаму ў жыццёвых абставінах. У гэтым ім патрэбна падтрымка беларускай дзяржавы. Найперш добра было б забяспечыць іх беларускім друкам, кніжкамі, паслаць мастацкія калектывы. Пытанні абароны інтарэсаў беларусаў у гэтым рэгіёне павінны ўлічвацца і ў міждзяржаўных адносінах паміж Беларуссю і Расіяй.

Доўгія гады жывуць беларусы і ў Якуціі, сёння гэта Рэспубліка Саха, якая набыла пэўную самастойнасць і сама вырашае свой лёс. Трэба зазначыць, што народ Якуціі, будучы нацыянальна свядомым, з павагаю ставіцца да іншых нацыянальных меншасцяў, што жывуць у рэспубліцы. Там працуе і беларуская суполка «Суродзіч». Як нам вядома, яна мае добрую падтрымку з боку міністэрства па справах народнасцяў. Міністр сп. Тапаркоў нават выказаў жаданне наведаць Беларусь, каб бліжэй пазнаёміцца з нашай краінай і ўстанавіць кантакты дзеля будучага супрацоўніцтва.

У выніку сталінскіх рэпрэсій многа нашых землякоў трапіла ў не менш суровыя, чым у Сібіры, раёны еўрапейскай поўначы. Зараз беларусы жывуць у Рэспубліцы Комі, тут існуе суполка «Бацькаўшчына». Вельмі актыўна там працуе Георгій Усціловскі, пажылы ўжо чалавек, але поўны энергіі і напорыстасці ў выкананні сваёй задумы ўвекавечыць памяць загінуўшых у лагерах сталінскіх лагерах сваіх землякоў, з якімі калісьці дзяліў іх горкі лёс. Яму наканавана было выжыць і ён мае цяпер адказнасць перад памяццю загінуўшых. Сп. Усціловскі займаецца пошукамі ў архівах, складае спісы, памагае жывым яшчэ былым вязням ці родным памерлых дабіцца рэабілітацыі. Але гэта цяжкая праца і яму патрэбна дапамога, найперш фінансаванне.

З асаблівым задавальненнем хачу зазначыць, што нашым суродзічам у краінах Сярэдняй Азіі ўдалося стварыць свае арганізацыі і тым самым падтрымаць многіх людзей. Мы памятаем, як драматычна часам складваліся палітычныя абставіны ў гэтым рэгіёне. І сёння там бывае трывожна. Многія хочуць вярнуцца на радзіму. У ліпені гэтага года старшыня беларускай суполкі ў Бішкеку сп. Ахраменка звярнуўся з афіцыйнымі пісьмамі да Міністэрства прамысловасці і Міністэрства працы Рэспублікі Беларусь, у якіх выказана просьба аб тым, каб даць магчымасць вярнуцца на Бацькаўшчыну многім беларусам Кыргызстана, дзе жыве іх больш за 7 тыс. Людзі просяць, каб дзяржава дапамагла ім найперш з жыллём і працаўладкаваннем, выказваюць магчымыя варыянты і прапановы. Копіі гэтых пісем атрымала з Кіргізіі «Бацькаўшчына», але пакуль што адказу на іх мы не бачылі. Варта ўдакладніць, што пытанне аб перасяленні ўжо ўздымалася кіргізскімі беларусамі два гады назад. «Бацькаўшчына» тады ўсяляк спрабавала дапамагчы, але нашых сіл не хапіла, каб прабіць сцяну абыякавасці ў дзяржаўных структурах. Такія ж праблемы цяпер узніклі і для беларусаў у каўказскім рэгіёне. На жаль, сёння там няма беларускіх арганізацый. Вайна ў Чачні прымусіла некаторых шукаць паратунку на Бацькаўшчыне. У нашым друку паведамлялася пра жанчыну, якая вярнулася ў Беларусь адтуль з двума маленькімі дзецьмі і пашкадавала аб гэтым, бо яна нідзе не змагла знайсці прытулку на бацькоўскай зямлі. Няма законаў, няма жадання ў чыноўнікаў дапамагчы чалавеку. Але ж затое куды больш магчымасцяў маюць этнічныя выхадцы з таго ж Каўказа, якія прыязджаюць у спакойную Беларусь з вялікімі грашыма, скупляюць хаты ў вёсках, кватэры ў гарадах. Так сталася, што менавіта беларусы з усіх прыязджаючых у нашу краіну маюць найменшыя магчымасці для ўладкавання. У законе аб бежанцах, які так і не ўступіў пакуль у дзеянне, ніяк не вызначана розніца ў правах і магчымасцях бежанцаў, якія вяртаюцца на бацькоўскую зямлю і якія трапляюць сюды па розных іншых прычынах. Цяпер ужо відавочна, што Беларусь стала каму прытулкам, а каму перавалачным пунктам для выхадцаў з розных усходніх краін дзякуючы адкрытай мяжы з Расіяй. Толькі для тых, хто паходзіць адсюль і хацеў бы вярнуцца, часта не знаходзіцца ўёй месца.

У больш спакойнай сітуацыі знаходзяцца зараз беларусы на Украіне. Нягледзячы на тое, што нашых землякоў там жыве больш за 400 тыс., актыўнасць іх у арганізацыі свайго нацыянальнага жыцця доўгі час была даволі слабая. Найбольш дзейсна гуртаваліся беларусы толькі ў Львове, дзе першая беларуская суполка была створана яшчэ ў 1965 годзе. Аднак дзякуючы падтрымцы беларускага пасольства, актыўнай працы саветніка Уладзіміра Бокача, а таксама таварыства «Украіна-Беларусь» пад кіраўніцтвам акадэміка Ігара Пахоdні пачалася шырокая арганізацыя беларускіх суполак у розных рэгіёнах Украіны. Асабліва важна, што беларуская арганізацыя нарэшце створана і ў Кіеве, дзе жыве каля 30 тыс. беларусаў. Нам паведамілі, што ў Кіеве адбылася ўстаноўчая канферэнцыя нацыянальна-культурнага таварыства «Беларусь», старшынёй якога абраны Міхаіл Пілiпенка. Нацыянальныя таварыствы дзейнічаюць зараз у Харкаве, Запарожжы,

(Заканчэнне на с.7.)

# Кола сям'і

## Чараўніца, Дзед Мароз

*Пакуначкі хаваюцца па кутах пакоя, лепш асобнага. (Можна падрыхтаваць «сюрпрызы» — каб на таго, хто пацягне за пакуначак, які вісіць на краю шафы ці паліцы, пасыпалася канфецці ці пацягнулася доўгая стужка серпанціну.) На аркушы паперы намалюйце твар Бураціна без носа, асобна зрабіце з пласціліну нос. Вазьміце некалькі лялек, якія лёгка разбіраюцца, аддзяліце ад тулаваў рукі, ногі, галовы — усё, што зможаце, і ссыпце ў мяшок.*

*Паспрабуем падрыхтаваць наступны атракцыён: возьмем два аркушы паперы аднолькавага фармату (пажадана Ф-12). На адным малюем навагоднія шары на фоне ёлачных галінак. Кожны шарык ці іншую цацку нумаруем. Выразаем іх па контуры, пакідаючы зверху неразрэзаны кавалачак, каб «шарыкі» адгіналіся ўверх. Цяпер прыклеім гэты аркуш да другога, не прыклейваючы выразаныя «шарыкі» (гл. малюнак 1). Між двума аркушамі зверху ўклейце сагнутую палоску паперы ці шнурок, каб «атракцыён» можна было падвесіць. Атрымаліся «акенцы», якія можна адкрываць і закрываць. І ў кожным акенцы робіцца адзін з малюнкаў, прыведзеных на мал. 2. Атракцыён гатовы. Спатрэбіцца яшчэ 4 місы ці талеркі і дзве лыжкі. Падрыхтуйце таксама «прызавы фонд» — цукеркі, фігуркі салдацікаў ці паштоўкі і да т.п.*

І вось прыйшлі госці. Пасадзіце бацькоў ля сценкі, каб яны не перашкаджалі. Вы — чараўніца (ці чараўнік).

**Чараўніца**. Добры дзень, дарагія госці! Сёння мы сустракаем Новы год, да нас прыйдзе Дзед Мароз, раздасць нам падарункі. Але каб Дзед Мароз прыйшоў, трэба нам будзе папрацаваць... Найперш давайце пазнаёмімся. Я — Чараўніца. А вось вы хто? Выходзьце да ёлачкі па аднаму, расказвайце пра сябе!

*(Запрашайце дзяцей па аднаму да ёлкі, няхай яны «абараняюць» свае касцюмы. Задавайце ім пытанні, напрыклад: «А чаму на табе карона? А для чаго табе гэты меч?» Калі хто-небудзь ведае пра свайго героя вершык ці песеньку — няхай раскажа ці спяе).*

**Чараўніца**. Якія незвычайныя госці сабраліся на нашым карнавале! Якія яны ўсе прыгожыя! Няхай яны пройдуць «круг гонару», а мы імі палюбуемся!

*(Уключыце ўрачыстую музыку. Няхай дзеці пройдуцца ў сваіх карнавальных касцюмах вакол пакоя, а дарослыя папляскаюць у ладкі. Вядучая можа каментаваць: «Паглядзіце! Вось ідзе Мальвіна! Якая яна прыгожая, як пасуе ёй блакітны бант! Звярніце ўвагу на Царыцу Ночы! Яе карона бліскучая, як сапраўдны месяц!»)*

**Чараўніца**. А цяпер, дзеці, нам трэба паклікаць Дзеда Мароза. Для гэтага належыць ведаць чароўныя словы. Зараз вы пойдзеце ў той пакой і адшукаеце 10 частак чароўных словаў, складзеце іх разам і прачытаеце.

*(Дзеці ідуць шукаць прыхаваныя пакуначкі, складваць з кавалкаў «чароўныя словы»). Пакуль гэта адбываецца, «Дзед Мароз» мусіць падрыхтавацца і стаць перад дзвярыма кватэры з мяшком, напоўненым скамечанай паперай).*

**Чараўніца**. Цяпер мы ведаем чароўныя словы. Давайце ж клікаць Дзеда Мароза! Крычыце: «Уладар Завеі!»

*(Дзеці крычаць, Дзед Мароз звоніць у дзверы, уваходзіць у кватэру.)*

**Дзед Мароз**: А вось і я! Вы мяне клікалі чароўнымі словамі? Малайцы!

Я ішоў да вас здалёк.
І цяжкі прынёс мяшок.
І цяпер ля ёлкі вашай
Хто мне вершыкі раскажа?

*(Дзеці расказваюць Дзеду Марозу вершы, пяюць песенькі.)*

**Чараўніца**. Малайцы! Вы ўсе ўмееце спяваць і расказваць вершыкі. А цяпер давайце праверым, якія вы спрытныя! Бачыце, да шафы прымацаваны партрэт Бураціна. Чаго на ім не хапае? *(Дзеці: «Носа!».)* Правільна. А вось і нос *(паказвае нос з пласціліну).* Я буду вам па чарзе завязваць вочы, і вы паспрабуйце з завязанымі вачыма прыляпіць Бураціну нос.

*(Дзеці выконваюць заданне.)*

**Дзед Мароз**. Малайцы! Вы вельмі спрытныя. А вось хацелася б ведаць, ці вы акуратныя?

**Чараўніца**. А мы зараз праверым. Падзелімся на дзве каманды! *(Дзеці ўтвараюць дзве каманды.)* Адна каманда — мая, а другая — Дзеда Мароза. Вось дзве місы з вадою, а там, на століку, у другім канцы пакоя, дзве пустыя місы. Кожнай камандзе я даю лыжку, і паспрабуйце гэтымі лыжкамі перанесці ўсю ваду з поўных місаў у пустыя! Хто хутчэй гэта зробіць? Галоўнае — не праліць ні кроплі! Пачалі!

*(Дзеці выконваюць заданне, Дзед Мароз і Чараўніца падтрымліваюць свае каманды.)*

**Дзед Мароз**. Я ўпэўнены, што вы спрытныя і акуратныя. Але ці кемныя вы?

**Чараўніца**. Праверым! Каманды, падыдзіце да мяне! Зараз з гэтага мяшка я высыплю разабраныя лялькі, а вы павінны іх сабраць! Якая каманда збярэ больш лялек — тая і пераможа!

*(Вядучая высыпае разабраныя лялькі, дзеці збіраюць іх.)*

**Дзед Мароз**. Малайцы! Усё вы можаце! Але акрамя таго, каб быць спрытным, кемным і акуратным, добра, калі чалавеку шанцуе!

**Чараўніца**. А мы праверым, як нашым дзецям шанцуе. Бачыце, на гэтым аркушы намаляваныя ёлачныя шары. Кожны шарык мае свой нумар, а пад кожным шарыкам схаваны нейкі знак. Ну, хто які шарык будзе адкрываць?

*(Дзеці падыходзяць да «атракцыёна», адкрываюць малюнак пад выбраным шарыкам. Калі гэта галава пеўня і лічба — трэба пракукарэкаць столькі разоў, колькі кажа лічба. Калі гэта твар з разяўленым ротам — трэба праспяваць, калі з усмешкаю — расказаць анекдот, калі намаляваныя ножкі балерыны — трэба зтаньчыць; калі цукерка — дзіця атрымлівае цукерку, калі пакунак з істужкаю — прыз.)*

**Дзед Мароз**. Якія ўдачлівыя дзеці! Ну, раз так, аддаю вам падарункі. Бярыце.

*(Дзед Мароз высыпае з мяшка скамечаную паперу.)*

**Дзед Мароз**. Ай-яй! Што такое?

**Чараўніца**. А дзе твае падарункі, Дзед Мароз?

**Дзед Мароз**. Гэта ж не мой мяшок! Падмянілі!

**Чараўніца**. Паглядзіце, у мяшку быў нейкі ліст. Што на ім напісана? «Прывітанне ад Зюзі». Усё ясна. Зюзя — гэта старажытнае боства холаду. Ён вельмі злы і халодны, і нават ходзіць па снезе басанож. Зірніце, на гэтым лісце ягоны след!

**Дзед Мароз**. Што ж нам рабіць?

**Чараўніца**. А тут яшчэ нешта напісана: «Шукайце падказку на сваёй ёлцы». А ну, дзеці, давайце шукаць!

*(Дзеці знаходзяць на ёлцы «падказку», чытаюць, дзе схаваны сапраўдны мяшок, і нарэшце атрымліваюць падарункі.)*

**Чараўніца**. А цяпер нам засталося ўпэўніцца, што сярод нас няма Зюзі і больш ніхто не забярэ нашыя падарункі. Зюзя чараўнік, ён можа прыняць любое аблічча. Можа, ты Зюзя? Ці ты — Зюзя? Давайце праверым — затаньчым вясёлы танец, каб Зюзя, калі ёсць ён сярод нас, растаў! Хто будзе паціху таньчыць — той і ёсць Зюзя!

*Усе таньчаць. Можна падняць і бацькоў да скокаў, каб «упэўніцца, што сярод іх няма Зюзі».*

**Чараўніца**. А цяпер развітаемся з Дзедам Марозам і пойдзем да святочнага стала!

*(Дзед Мароз развітваецца з дзецьмі. Дзеці ідуць у пакой, дзе накрыты «салодкі стол».)*



Мал. 1 Мал. 2

*Здароўе*

**Тацяна ФАМІНА,**
*кандыдат медыцынскіх навук*

## Яшчэ пра адну хваробу сістэмы стрававання

### *(Дыскінезія жоўцевых шляхоў і кішэчніка)*

**Прафілактыка**

Асобам, якія пакутуюць ад гэтай хваробы, раяць есці кожныя 3—4 гадзіны — дзеля выпрацоўкі стрававальнага рэфлексу, у адну і тую ж пару. Страва павінна мець дастатковую колькасць бялку дзеля падтрымання нармальнага складу жоўці. Яны мусяць пазбягаць тлустых, смажаных страў, аладак, грыбоў, вараных першых страў, свежага малака і смятанкі. Хворыя павінны адмовіцца ад празмернай колькасці салодкіх, мучных страў, шакаладу, какавы, алкагольных напояў ды кінуць курыць. А тым, у каго функцыі жоўцевага пухіра і кішэчніка зніжаныя, вельмі карысныя сырыя, свежыя гароднінныя салаты: з капусты, рэпы, морквы, тапінамбура, бручкі з невялікай колькасцю цыбулі ці часнаку ды алею. Такія салаты трэба есці раніцай нашча або на вячэру. Спрыяюць лячэнню кефір, ацыдафілін, кіслае малако. Асабліва карысны біфіда-кефір (квашанае з дапамогай біфідных бактэрыяў малако), які рэгулюе склад бактэрыяльнай флоры хворага кішэчніка. Раяць спажываць і свежы сок, лепей мяшаны з некалькіх відаў гародніны. Сок трэба разводзіць вадой. Калі ў хворага назіраецца выразнае ўздзіманне кішэчніка, трэба спажываць менш бульбы, гароху, фасолі, аржанога хлеба. Замест бульбы, прыкладам, можна параіць кашу: аўсяную, пшонную, пшонна-гарбузовую, рысава-гарбузовую.

Напоі (сокі, кампоты, чай, кефір ды інш.) спажываюць за 30—40 хвілін да яды або праз паўгадзіны пасля. Гэта робіцца дзеля спраўнага стрававання. (Не прывучайце дзяцей запіваць ежу!)

Калі пры дыскінезіі ў хворага назіраюцца частыя ды вадкія спаражненні, то варта стравы і напоі спажываць гарачымі. Дыета грачаная, рысавая каша, пажадана з разынкамі, курагой. Раяць таксама кісель, чарніцы, напар з гранатавых скурак, моцны чай.

У выпадках, калі адчуваецца часты боль у кішэчніку ды і правым баку пад рэбрамі, пажадана спажываць сырое пшанічнае вотруб'е: па адной сталовай лыжцы да кожнай стравы. Такі просты лек дазваляе суцішыць боль у жываце, нармалізуе спаражненне. Калі боль у правым баку пад рэбрамі адчуўся ўпершыню, выпіце палавіну шклянкі цёплага настою рамонкавых кветак, насення кмену або кропу (адну сталовую лыжку зёлак або сумесі заліць шклянкай вару, настойваць 40 хвілін).

Дзецям, што пакутуюць ад такой хваробы, варта даваць адвары шыпшыны, кукурузных рыльцаў за 30—40 хвілін да яды. Пажадана спажываць гэты лек 10—12 дзён запар (штомесяц), спалучаючы такое лячэнне з ваннай. Ванна рыхтуецца так: у цёплую ваду тэмпературай 37 градусаў наліць адвар чабору (можна чарады, валяр'яну) — прыкладна 1 літр. Ляжаць у ванне спакойна 10—15 хвілін, пасля выцерціся і легчы ў пасцель.

Хворым, што маюць зніжаныя функцыі жоўцевага пухіра і кішэчніка, раяць так званае сляпое зандзіраванне з жаўцягоннымі зёлкамі раніцай нашча. Робіцца гэта так. Напярэдадні ўвечары рыхтуюць адвар шыпшыны або кукурузных рыльцаў: адна сталовая лыжка зёлак на шклянку вару. Рана выпіваюць нашча шклянку адвару (дзецям — палавіну) ды кладуцца без падушкі на правы бок, падціскаюць ногі да жывата, кладуць цеплаватую грэлку пад правы бок пад рэбры. Ляжаць трэба ад 40 хвілін да адной гадзіны. Сляпое зандзіраванне (яго называюць і цюбажом) можна паўтараць некалькі разоў на тыдзень працяглы час — залежна ад самапачування. Хворым з павышанай актыўнасцю жоўцевага пухіра цюбажы рабіць не трэба.

**Масару ІБУКА**

## Пасля трох ужо позна

*(Працяг.)*

### Для дзіцяці прасцей запомніць «галуб», чым «дзевяць»

Мне ўспамінаецца адзін выпадак, калі ў мяне ў гасцях быў мой 2-гадовы ўнук, якога я даўно не бачыў. Ён паглядзеў у акно, паказаў мне неонавыя шыльды й горда сказаў: «Вось гэта «Хітачы», а гэта «Ташыба». Я папытаўся ў яго маці, калі яе сын вывучыў кітайскі алфавіт, і тут высветлілася, што ён не чытаў «Хітачы» і «Ташыба» па-кітайску, а проста запомніў гандлёвыя маркі, як вобразы, і так іх адрозніваў. З мяне ўсе смяяліся, як з «дурнога замілаванага дзеда», але я ўпэўнены, што такое бывае шмат з кім.

Нядаўна я атрымаў ліст ад 28-гадовай маці з Фуджысавы, якая прачытала ў штотыднёвіку серыю маіх артыкулаў пра ранняе развіццё. З яе ліста я даведаўся, што яе старэйшы 2,5-гадовы сын пачаў запамінаць маркі аўтамабіляў, калі яму было каля 2-х гадоў. Ужо праз некалькі месяцаў ён мог лёгка назваць каля 40 аўтамабіляў і японскіх, і іншаземных марак, часам ён мог нават назваць марку машыны, якая стаяла пакрытая брызентам. А крыху раней, напэўна, пад уплывам тэлеперадач, ён пачаў запамінаць сцягі розных краін і цяпер мог пазнаць і правільна назваць сцягі 30 краін, уключаючы такія, як сцяг Манголіі, Панамы, Лівана — сцягі, якія і дарослы ўспомніць з цяжкасцю. Гэты прыклад сведчыць, што ў дзяцей ёсць адна якасць, якой даўно няма ў дарослых. Дзіця валодае надзвычайнай здольнасцю па вобразах пазнаваць прадметы, што не мае нічога агульнага з аналізаваннем, гэтаму дзіця навучыцца значна пазней. Цудоўны прыклад, які пацвярджае гэту гіпотэзу, — здольнасць немаўляці пазнаваць твар сваёй маці. Многія малечы пачынаюць плакаць, калі іх бяруць на рукі незнаёмыя людзі, і супакойваюцца і ўсміхаюцца на руках у мамы.

У якасці эксперыменту пан Ісао Ішы даваў урокі кітайскай пісьменнасці ў нашай «Асацыяцыі ранняга развіцця». Трохгадовыя дзеці лёгка запаміналі такія складаныя кітайскія іерогліфы, як «галуб» ці «жыраф». Справа ў тым, што для дзіцяці, якое без асаблівых намаганняў запамінае нават найменшыя змены ў выразе твару, цяжкія кітайскія іерогліфы — не праблема. У адрозненне ад абстрактных слоў, такіх, як «дзевяць», ён можа лёгка запамінаць словы, што абазначаюць канкрэтныя прадметы, такія, як «жыраф», «янот», «ліса», якімі б цяжкімі яны ні былі. Таму няма нічога дзіўнага, што дзіця можа абыграць дарослага ў карты. Калі дарасламу свядома даводзіцца запамінаць месца, лічбу і малюнак, дык дзіця валодае цудоўнай вобразнай памяццю.

### Дзіцяці лягчэй зразумець алгебру, чым арыфметыку

Адна з фундаментальных ідэй матэматыкі — тэорыя шэрагаў. Дарасламу, які вывучаў адразу паняцце лічбы, а пасля геаметрыю і алгебру, зразумець яе даволі цяжка. А для дзіцяці логіку тэорыі шэрагаў ці тэорыі мностваў зразумець лёгка. Пані Рышэні Фелікс, прызнаны аўтарытэт па навучанні матэматыцы, сцвярджае, што дзіця можна пачаць вучыць матэматыцы ў любым узросце.

«Шэраг» ці «мноства» — гэта проста сукупнасці прадметаў з агульнымі якасцямі. Дзіця знаёміцца з імі, калі пачынае гуляць з кубікамі. Ён бярэ адзін за адным, адрознівае па форме: квадратныя, трохкутныя і г.д. Ужо ў гэтым узросце ён добра разумее, што кожны кубік — гэта элемент «шэрагу» і што купка кубікаў — гэта адзін шэраг, а трохкутнікаў — другі. Такая простая ідэя, што прадметы можна сартаваць па групах згодна з пэўнымі характарыстыкамі, з'яўляецца галоўным прынцыпам, які ляжыць у аснове тэорыі шэрагаў. Для дзіцяці натуральна, што яно разумее простую і лагічную тэорыю мностваў лягчэй, чымся складаную і мудрагелістую логіку арыфметыкі.

*(Працяг будзе.)*

**Падрыхтавала Л.Ш.**

ACADEMIA «NS»

## Адсьвежаньне

***Наш сталы аўтар, выкладчык Гарадзенскага універсітэта імя Янкі Купалы, кандыдат філалагічных навук Юрась ПАЦЮПА прапанаваў нам новую рубрыку. Назва яе пайшла ад слова, знойдзенага ім у архіве газеты «Наша ніва». Гэтае ж слова ўжыў і беларускі паэт Уладзіслаў Пятровіч Сівы-Сівіцкі, які пісаў пад псеўданімам Стары Улас.***

*Слоўца адно, часам другое,*
*Сказана мудра, у пору,*
*Душу **адсьвежыць**, мысль заспакоіць,*
*Як бы адверне з плеч гору.*

**Стары Улас.**

*«Пулаўскія беларусы шчыра вітаюць віленскіх таварышоў і жычуць ім цёнглага **адсьвяжэньня** маральных сілаў».*

**(Архіў «Н.Н.»)**

# Пабіццё і струт

Апошнім часам па старонках беларускага друку пачало вандраваць слова **параза**. Адным яно цвеліць вока, другім — лашчыць. Заступцы выказваюць домнеў, маўляў, гэтае слова ўжывалася яшчэ ў 20-я гады, іншыя бароняць як традыцыйнае **паражэнне.** Аднак, з усяго відаць, існасць спрэчкі не такая ўжо складаная: слова **параза** ўзнікла зусім нядаўна, за патрэбаю можна было б нават «вылічыць» яго крыніцу, але няма ў тым канечнасці. У 20-я гады ў даным значэнні за норму мелі слова **паражка**, якое бытнавала яшчэ ў XVII ст. «Сіноніма славенароская» **паражку** перакладае як «сечь». Магчыма, тая звязана з заходнеславянскім рэгіёнам, бо існуе і ў польскай, і ў чэшскай мовах, захавалі падобнае слова (**поразка**) таксама ўкраінцы.

Беларусы, на жаль, вылучаюцца нігілізмам узглядам свае спадчыны, таму і «змагаюцца» з русіфікацыяй выдумваннем новых слоў. З аднаго боку, **параза** мае досыць правільную форму, яна ўтворана безафіксавым спосабам ад маргінальнага дзеяслова **паражаць,** таксама, як і **зараза ад заражаць,** параўнайма сербска-харвацкае **пораз**. Але, з другога боку, няўжо мы павінны ствараць сваю мову як нованацыянальную? «Сіноніма славенароская» побач з **паражкаю** дае і **паражэнне,** але з крыху «далікатнейшым» значэннем «рана, язва», а таксама дзеяслоў **паражаю** «язвлю». Цікава, што амаль тое ж значэнне тут мае дзеяслоў з іншым коранем **пабіваю** «уязвлаю, ураняю», ды вытворны ад яго назоўнік: **пабіццё** «рана, язва». Аналагічна ж у Зізанія: **язва** «рана, пабіццё, паражэнне».

Корань **раз** (этымалагічна звязаны з **рэзаць**) у беларускай мове не атрымаў такога распаўсюджання, як у расійскай, яго далейшае ўжыванне амаль абмежавалася карэляцыйнаю параю **уражваць** і **выражаць**, словам **вобраз** і да т.п. Інакш кажучы, **раз** набыў адцягненае значэнне. Праўда, ёсць выветы з правіла, скажам, досыць рэдкі дзеяслоў з лідскіх гаворак **апаразіць (абпаразіць?)**, што значыць «злёгку параніць». Затое корань **біт** у беларускай мове надзвычай прадукцыйны, і якраз на месцы расійскага **раз**, параўнайма: **отражение — адбітак** (у люстэрку), **адбіццё** (ворага). Не дзіўна, што найбольш сістэмным з магчымых адменаў — **паражка, паражэнне, параза, пабіццё**, з'яўляецца апошняе слова, заразом, **пабіццё** мае багатую традыцыю ўжывання, яго тарнаваў яшчэ Ф.Скарына, собіць яно таксама апрычэнню беларускае мовы сярод суседніх славянскіх народаў. *«...**Народ наш захаваў яшчэ такое вялікае багацце слоў, зваротаў і выславаў, цалкам арыгінальных і ўдадатку нікім дагэтуль не заграбленых**,* — пісаў В.Ластоўскі, — ***што без вялікіх трудоў можна яшчэ мову нашу збагаціць тысячамі слоў, цалкам самаістых, якія могуць лёгка заступіць накінутыя нам чужыя словы, або і нашы, ды ўжо з'асіміляваныя чужынцамі».***

Цягам гэтага меркавання мне хацелася б «адсвежыць» яшчэ адно забытае беларускае слова. У А.Абуховіча ў мемуарах ёсць такі верш:

*Не Сібір, астрог, не кнут —*
*І не цела цяжкі мукі,*
*Але дух народу струт...*

Што такое **струт** публікатары мемуараў чамусьці не паспрабавалі вытлумачыць. А перад намі вельмі цікавы, і ці не апошні выпадак ужывання слова з некалі багатага словаўтваральнага гнязда. Прыкладам, тая ж «Сіноніма...» з'яўляе лексемы: **устручаны** «возраженъ»; **адтручэнне** «отриновение, отражение»; **стручаю** «возражаю»; **стручаны** «возраженъ, низверженъ»; **стручэц** «той, хто «стручае»?»; **тручаю** «рею, пореваю». Слоўнік Л.Зізанія дае ў адваротным парадку: **отрину** «адтручу, адапхну, атрасу»; **рею** «валаку, шарпаю, пхаю». Яшчэ ў «Слове пра паход Ігаравы» знаходзім гэты корань: «Ту ся копиям приломати, ту ся саблям потручати о шеломы половецкия...» Таму наўрад ці можна лічыць паланізмам і ўжыванне А.Філіповіча: «А проклятых **утруціць** — ах бяда ж! — да пекла на вечныя мукі». Філіповічава слова **утруціць** «урынуць» і слова **уструт** «пярэчанне» М.Сматрыцкага, бадай, таксама вартыя аднаўлення ў сучаснай сістэме мовы.

Такім чынам, корань **трут** у агульных рысах адпавядае кораню **раз**, а слова **струт** — слову **паражение** (заўважу, у летувіскай мове trenkti значыць «грамознуць, ударыць з громаздам»). Не дзіва, што гэтую лексему не растлумачылі выдаўцы Абуховіча, бо ўжо Зізанію даводзілася з'ясняць **струт** больш распаўсюджанымі беларускімі словамі: «збурэнне места, альбо люду пабіццё». Але той жа Сматрыцкі ў «Ляманце...» пісаў: *«....Налогі, каторыя зстручаюць з збавення дарогі».*

Калі вывучыць даную праблему падрабязней, то, відаць, кожнае з мною пададзеных слоў мела б сваё адмысловае адценне, як ёсць у іншых славянскіх мовах. Пазыванне ж на наватворы — гэта вынік сцірання моўнае сістэмы з супольнае памяці, што сведчыць пра спрашчэнне ці, інакш, дэградацыю мовы. Такі павярхоўны пурызм — усяго толькі ўяўныя ўцёкі ад русіфікацыі, бо словазлучэнне **пацярпець** (ці **нанесці) паразу** такое ж зрасіянае, як і **пацярпець паражэнне.** Для мовы істотнае не толькі слова, не менш важная яшчэ і ўнутраная форма выслоўя, гэтак украінцы скажуць **зазнати** (ці **завдати**) **поразки,** сербы і харваты — **доживети пораз,** для беларусаў жа, відаць, найбольш натуральнымі былі б словазлучэнні **атрымаць пабіццё, учыніць струт.**

**Юрась ПАЦЮПА.**

Падрабязнасці

*Ганна СУРМАЧ, старшыня Рады ЗБС «Бацькаўшчына»*

# За межамі краіны жыве 3,5 мільёна беларусаў

*(Заканчэнне. Пачатак на с.3.)*

Львове, у Крыму. Ствараюцца суполкі ў Палтаве, Нікалаеве, Днепрапятроўску, Данецку, Белай Царкве, Херсоне. У адной з кіеўскіх бібліятэк будзе адкрыт беларускі філіял. Нядаўна ў Кіеве прайшоў круглы стол экспертаў па тэме «Беларусы Украіны» з удзелам прадстаўнікоў урадавых структур, навукоўцаў з Украіны, Беларусі. Стабілізацыя палітычнага і эканамічнага становішча ў Рэспубліцы Малдова таксама значна аблегчыла дзейнасць беларускіх суполак у Кішынёве, Бендэрах.

Найбольш грунтоўна замацавалася беларуская прысутнасць у краінах Балтыі. Беларускія суполкі ў Летуве*, Латвіі, Эстоніі дзейнічаюць ужо працяглы час і годна прадстаўляюць сябе ў гэтых краінах. Але і тут ім даводзіцца змагацца за свае правы. Аднак дзякуючы іх настойлівасці зроблена многае. Менавіта ў Вільні і ў Рызе існуюць тыя дзве беларускія школы, якія толькі ёсць сёння ва ўсім беларускім замежжы. Выдаюцца тры беларускія газеты «Наша ніва» (Вільня), «Прамень» (Рыга), «Наша старонка» (Салечнікі, Летува). Такім чынам, агледзеўшы становішча ва ўсходняй беларускай дыяспары, можна канстатаваць, што за апошнія гады яна здолела сарганізавацца і распачаць сваё нацыянальнае жыццё. І гэта ўжо само па сабе надзвычай важна.

Аднак, многія новыя беларускія суполкі яшчэ не здолелі сфармавацца як самастойныя, дзейсныя арганізацыі. Галоўнае, недахоп амаль ва ўсіх — адсутнасць матэрыяльнай базы, фінансавых сродкаў. Прывучаныя ў савецкі час спадзявацца не на ўласныя сілы, а на тое, што нехта нешта дасць проста так, мы не заўсёды гатовыя ўзяць на сябе адказнасць і ініцыятыву, не вучыліся ладзіць гаспадарчую дзейнасць, зарабляць грошы. Не выкарыстоўваецца належным чынам магчымасць атрымаць падтрымку ад улад краін пражывання, дзе беларусы з'яўляюцца грамадзянамі і падаткаплацельшчыкамі і маюць права на падтрымку дзяржавы ў арганізацыі свайго грамадска-культурнага жыцця як нацменшасць. На жаль, яны не маюць падтрымкі таксама з боку беларускай дзяржавы, якая сёння звяла амаль што да нуля сваю распачатую раней працу з беларусамі блізкага замежжа. Хацелася б звярнуць увагу і яшчэ на адну асаблівасць усходняе дыяспары. Тут слаба прысутнічае такі моцны арганізацыйны фактар, характэрны для заходняй дыяспары, як сумеснае царкоўнае жыццё. Былі спробы адкрыць праваслаўную беларускую царкву ў Маскве, але ўдалося гэта зрабіць пакуль што ў Санкт-Пецярбургу, дзе зараз дзейнічае беларускі прыход. Зараз будуецца царква ў Салечніках (Летува).

Асобна трэба закрануць сітуацыю з беларускім рухам у Польшчы. Яна тут не менш складаная, чым у блізкім замежжы. Доўгі час нашы суродзічы на Беласточчыне былі добрым прыкладам для нас на Бацькаўшчыне ў справе захавання сваёй мовы, культуры, нацыянальнай духоўнасці. Тут створаны цэлы спектр самых розных арганізацый і асяродкаў, якія здолелі аб'ядначца ў Беларускі саюз у Польшчы. Існуе нават адзіная ў замежжы беларуская палітычная партыя — Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне. Але мусім сказаць, што апошнім часам грамадская актыўнасць беластоцкіх беларусаў трохі знізілася і трэба думаць аб прычынах. Праўда, маем зараз добрыя весткі пра адкрыццё сёлета беларускага дзіцячага садка ў Беластоку. Своеасаблівай з'явай у культурным жыцці на Беласточчыне стаў, калі можна так сказаць, беларускі музычны рух. Беларуская моладзь ужо каторы год ладзіць шырокавядомыя музычныя фестывалі — «Басовішча» і «Бардаўская восень», БГКТ арганізоўвае фестывалі беларускай песні. У Польшчы зараз існуюць цудоўныя музычныя калектывы і гурты — «Маланка», «Белы сон», «Рэал», «Брама» і інш. Трэба адзначыць, што ўсё гэта як найлепш спрыяе захаванню беларушчыны ў гэтым краі.

Але жыццё — гэта не толькі музыка і песні, моладзь павінна мець магчымасць атрымліваць і нацыянальную адукацыю. А на гэтым вялікім абсягу кампактнага пражывання этнічных беларусаў сёння няма ніводнай цалкам беларускай школы. Хаця польскія афіцыйныя ўлады налічваюць ажно 44 школы, дзе выкладаецца беларуская мова, мы добра ведаем, што гэта не зусім тое, што патрэбна дзеткам-беларусам. Бо нават знакамітыя беларускія ліцэі ў Гайнаўцы і Бельску вывучаюць беларускую мову ў такім жа аб'ёме, як і замежную. У той жа час у Беларусі колькасць польскіх школ імкліва расце. Зараз у Гародні будуецца новая школа за кошт польскага ўрада. Нас папракаюць: чаму, маўляў, беларускі ўрад не знайшоў на гэта грошай? А ці знайшоў польскі ўрад грошы для беларускай школы ў Польшчы? Ці не варта было б прытрымлівацца нейкага балансу інтарэсаў? Беларускія ўлады маглі б узяць сабе за прыклад такую актыўнасць палякаў у Беларусі і адпаведна дамагацца лепшых умоў у галіне адукацыі на Беласточчыне. Але, найперш, абавязак саміх беластоцкіх беларусаў клапаціцца пра свае інтарэсы. Думаю, што больш актыўную ролю тут павінны ўзяць на сябе Беларускі саюз Польшчы. Гэта арганізацыя павінна годна прадстаўляць беларускія інтарэсы ў Польшчы перад урадам гэтай краіны, а таксама і перад урадам Беларусі. Актывізацыя дзейнасці саюза патрэбна і ў кірунку кансалідацыі і каардынацыі дзейнасці ўсіх беларускіх суполак, таму што, як вядома, яны часта не знаходзяць паміж сабою паразумення, і ад гэтага цэрпіць беларуская справа ў Польшчы. Яшчэ на З'ездзе беларусаў свету Яўген Лецка выказаў ідэю аб тым, што добра было б арганізаваць сход беларусаў Беласточчыны. Магчыма, што і варта было б падумаць пра такі высокі форум, каб праблеме беларусаў у гэтым рэгіёне было нададзена больш высокае гучанне. Не трэба забываць і таго, што беларусы ў польскай дзяржаве жывуць не толькі на Беласточчыне. Добрае слова хацелася б сказаць пра беларускую суполку «Хатка» ў Гданьску, якую ўзначальвае Алена Глагоўская. У гэтым горадзе беларуская прысутнасць дзякуючы актыўнасці адчуваецца моцна. Пэўна, гэта можа быць добрым прыкладам для нашых суродзічаў у іншых рэгіёнах Польшчы.

У цэлым, ацэньваючы сітуацыю ў беларускай дыяспары, не падзяляючы яе на заходнюю і ўсходнюю, можна сказаць наступнае. Сёння па-за межамі Беларусі пражывае прыкладна 3,5 млн. беларусаў, што складае недзе чацвёртую частку нацыі. Найбольш свядомая частка дыяспары здолела аб'ядначца і стварыць свае арганізацыі ў розных краінах свету. Усе яны разам з пэўнымі грамадскімі структурамі ў самой Беларусі ствараюць адзіную беларускую сусветную супольнасць, якая афіцыйна аформілася на Першым з'ездзе беларусаў свету ў 1993 г., калі быў створаны яе прадстаўнічы і каардынуючы орган — Вялікая рада Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына». У гэтым я бачу асноўны вынік і галоўнае дасягненне дзейнасці ЗБС «Бацькаўшчына» за пяць гадоў яго існавання. Думаю, што ўтварэнне ЗБС было патрэбнаю справаю. Згуртаванне прайшло першы, вельмі адказны этап сваёй працы — арганізацыйны, здолела сцвердзіць сваю жыццяздольнасць.

Перспектывы на будучыню бачацца ў тым, каб скарыстаць нашу арганізацыйную згуртаванасць на карысць беларускай справе. Для гэтага, найперш, трэба і надалей удасканальваць менавіта арганізацыйную структуру. Неабходна захаваць тыя суполкі, што створаны, і дапамагчы аб'ядначца паміж сабою тым беларусам, якія яшчэ не здолелі гэтага зрабіць у замежжы.

Найважнейшаю задачаю беларускіх суполак у замежжы павінна стаць утварэнне матэрыяльнае і фінансавае базы, так як гэта робяць іншыя народы. Толькі пры такой умове могуць быць паспяховымі ўсе астатнія накірункі дзейнасці арганізацыі. Прынцыпова важна дабівацца распрацоўкі і прыняцця заканадаўчых актаў на Беларусі па абароне правоў замежных суродзічаў. Найперш, афіцыйна павінен быць вызначаны статус замежнага беларуса, каго можна адносіць да гэтай катэгорыі. Той, хто атрымае такі статус, павінен мець і пэўныя, большыя, чым у іншых грамадзян замежных дзяржаў, правы па набыцці маёмасці на Беларусі, спрыянне ў вядзенні бізнесу, спрошчаную працэдуру набыцця грамадзянства і вяртання на радзіму. Пэўную карэкціроўку трэба было б унесці і ў іншыя законы, скажам, у закон аб бежанцах, дзе нейкім чынам закранаюцца інтарэсы замежных беларусаў. Вядома, што пры ўрадзе краіны створаны савет па справах нацменшасцяў і беларусаў блізкага замежжа. Але мы, на вялікі жаль, нічога не ведаем пра яго дзейнасць. Пра гэта не паведамляецца ў друку, а на пасяджэнні прадстаўнікоў «Бацькаўшчыны» не запрашалі ні разу і нават ніякіх кантактаў з гэтым органам мы не маем, што, безумоўна, выглядае дзіўна.

На Сходзе беларусаў блізкага замежжа і З'ездзе беларусаў свету былі прыняты звароты да парламента і ўрада Беларусі, дзе былі выкладзены просьбы і прапановы аб патрэбах замежных беларусаў. На жаль, большасць іх так і не задаволена. Урадам была распрацавана і прынята спецыяльная праграма «Беларусы ў свеце», але і яна ў поўнай меры не выконваецца. «Бацькаўшчыне» даводзілася найбольш супрацоўнічаць з Міністэрствам культуры і друку і Міністэрствам адукацыі, якія больш актыўна ўдзельнічалі ў справе дапамогі дыяспары.

Зразумела, што працаваць на абраным намі шляху будзе няпроста, а магчыма, усё цяжэй і цяжэй. Палітычныя і эканамічныя праблемы, што перажывае цяпер Беларусь, закранаюць вельмі балюча і нас, абмяжоўваюць магчымасці, ствараюць перашкоды. Але ўсе тыя, хто арганізаваў Згуртаванне і пяць гадоў падтрымліваў яго дзейнасць, будуць і надалей укладаць сваю працу, сілы, здароўе, каб «Бацькаўшчына» жыла і ўмацоўвалася. Ужо сама назва арганізацыі абавязвае нас да высокай адказнасці за яе далейшы лёс.

І на заканчэнне — пра самае асноўнае. Надзвычай важна для ўсіх нас захаваць адзінства, пераадолець непаразуменні. Усіх нас павінна аб'ядноўваць агульная нацыянальная справа — справа захавання беларускай нацыі, незалежна ад таго, дзе жывуць яе прадстаўнікі. Галоўным нашым клопатам павінна быць Беларусь, захаванне яе як самастойнай дзяржавы і захаванне яе народа такім, якім стварыў яго Усемагутны Бог. На жаль, пакуль што такога разумення і такой адказнасці нам яшчэ не хапае. Да сапраўднага адзінства давядзецца, магчыма, яшчэ ісці доўга і пакутліва. Але мусім ісці, каб жыць.

*Назва краіны падаецца паводле рэдакцыйнай нормы.

# Святочны каляндар беларусаў



Назва месяца паходзіць ад слоў «снег», «снежны». На яго прыпадаюць дні зімовага сонцастаяння (сонцавароту). 18, 19, 20, 21, 22 снежня — самыя кароткія дні года, іх даўжыня — 7 гадзін 23—24 мінуты. Час зімовага сонцастаяння лічыцца пачаткам астранамічнай зімы. У снежні няўстойлівае надвор'е: туманы, мяцеліцы, адлігі. Даўней снежань праходзіў у атмасферы чакання радаснага, урачыстага рэлігійнага свята — Божага Нараджэння (Каляд). Яго адзначалі (і адзначаюць) 25 снежня — беларусы-каталікі па новым стылі, праваслаўныя беларусы па старым стылі. З такім жа нецярпеннем людзі чакалі Новага года, з каторым гаспадары звязвалі спадзяванні на лепшыя перамены ў жыцці, а дзяўчаты — на замуства.

Калядныя і навагоднія абрады, песні і гульні — багатая частка фальклорнай спадчыны беларускага народа. Святкаваць Каляды пачыналі з Поснай (Вялікай) куцці. Яе спраўлялі напярэдадні Божага Нараджэння, увечар з 24 на 25 снежня. Абрус рассцілалі па сене, сядаючы вячэраць, стукалі ў акно і клікалі: «Мароз, Мароз, хадзі куццю есці!»

Каляды святкавалі весела і гучна: хадзілі гуртам калядаваць, вадзілі казу, спявалі песні, варажылі, ладзілі гульні і тэатралізаваныя прадстаўленні. Перад Новым годам спраўлялася Шчодрая (мясная) куцця, на якую найбольш хадзілі шчадраваць. Абавязкова спраўлялася куцця і перад Вадохрышчам, якую звалі Галоднай, Вадзяной. Час калядавання цягнуўся з 24 снежня па 6 студзеня.

Прыказкі і прыкметы на зіму і на снежань таксама багаты калядныімі. На жаль, у тоўстых акадэмічных зборах іх вельмі мала, паколькі савецкая ўлада спавядала атэізм. Пра Каляды казалі: «Калядкі — добрыя святкі — пад'еў і на палаткі», «Сабачкі брэшуць — Калядкі ідуць». Людзі прыкмячалі, што калі на каляцкае свята мароз, то на праваслаўнае будзе адліга; вецер на Каляды — да арэхаў; неба зорнае — будзе гарох, грыбы і ягады; мяцеліца — пчолы будуць весціся.

Увесь снежань (аж да 6 студзеня) прадаўжаецца шасцітыднёвы піліпаўскі пост, калі спяваліся доўгія працяжныя

## «Снежань зямлю грудзіць, хаты студзіць»

песні павучальна-дыдактычнага зместу баладнага трагічнага характару. Прыкладам такой песні можа быць такая.

*Ой, у бару грыбы зарадзілі,*
*Ой, у бару грыбы зарадзілі,*
*Там дзяўчына па бару хадзіла,*
*Маладая ў бару заблудзіла,*
*Прыблудзіла к зялёнаму дубу,*
*— Ой, тут я начаваці буду!*
*Я думала, што дуб зеляненькі,*
*Ажно гэта казак маладзенькі,*
*Ты, казача, вялікі гультаю,*
*Выведзь мяне на дарожку з гаю!*
*— Каб ты, дзеўка, дарожак не знала,*
*Што ты мяне гультаём назвала!*
*Ой, дам табе паўгарца гарэлкі,*
*Заправую, што за розум у дзеўкі!*
*— Вазьмі сабе паўгарца другога,*
*Не падманеш мяне маладую!*
*Вазьмі сабе хоць два гарцы піва,*
*То наробіш усяму роду дзіва!*

**4** (панядзелак). **Прав.** *Увядзенне ў храм Найсвяцейшай Багародзіцы.*

**Народны каляндар.** «Увядзенне» (Вядзенне) часам асацыіравалася з воўчымі вяселлямі. Прыказкі прыгожа ілюструюць прысвятак: «На Увядзенне бывае ляцзенне», «Увядзенне прыйшло — зіму прывяло». На Палессі прысвятак называлі «вадзіць Варвару»: хадзілі ў госці, частаваліся варэнікамі. Гаварылі: «Варвара ноч уварвала, а дзень надтачыла» — бо набліжаўся час сонцастаяння. У гэты дзень не працавалі, а дзяўчаты варажылі на суджанага.

**5** (аўторак). **Народны каляндар.** *Пракоп.* Прысвятак, у які расчышчалі ад снегу праходы («Пракоп хмуры раскапае гуры»).

**7** (чацвер). **Народны каляндар.** *Кацярына.* Вядома як «свята свечкі», пры якой варажылі.

**8** (пятніца). **Кат.** *Нявіннае зачацце Найсвяцейшай Панны Марыі.*

**9** (субота). **Ун.** *Зачацце святое Ганны.*

**Народны каляндар.** *Юр'е Зімовы*, вядомы як дзень, калі дазвалялася прыгонным пераходзіць да другога гаспадара. Прыказка: «Ёсць у годзе два Юр'і і абодва дурні: адзін галодны (6 мая), а другі халодны». Лічыўся апекуном хатняй жывёлы. Прыказка «Вось табе, бабуля, і Юр'еў дзень» засведчыла другое значэнне свята.

**13** (серада) **Прав.** *Андрэй Першазваны.* **Народны каляндар.** *Варажбіт* або *Дзявочыя варожбы.* Варажылі, бегалі пад суседскія вокны слухаць, што гавораць у хаце, сеялі каноплі вакол калодзежа («На цябе, святы Андрэю, канапелькі сею») або спявалі ўсім вядомую прыпеўку:

*Андрэй, не дурэй,*
*Не дзяры сарочкі.*
*Ты не праў і не ткаў,*
*І не твае дочкі.*

**14** (чацвер). **Народны каляндар.** *Навум*, прысвятак, з якога пачынаўся вучэбны год («Вучыцель Навум, які розуму вучыць», «Настаўнік Навум паставіць на вум»). Святкаваўся ў школах.

**17** (нядзеля). **Ун.** *Нядзеля Прааўцоў.*

**19** (аўторак). **Прав.** *Мікалай Свяціцель.* **Народны каляндар.** *Мікольнік, Мікола Зімовы* («Варвара мосціць, а Мікола гвоздзіць»; «Да Міколы няма зімы нікол»; «Ніхто так не ратуе на вадзе, у дарозе ці на вайне, як святы Мікола»). Свята называлі *Мікольшчынай* і праводзілі яго так: гаспадар, які меў свечку з веснавога Міколы, частаваў сяброў, пасля свечку ставілі ў рэшата з жытам і пераносілі да суседа, у якога на наступны год меліся адзначаць Мікольшчыну. Па дарозе спявалі абрадавую песню:

*Прашу цябе, Мікола, да сябе,*
*Каб ты ў мяне гадаваў,*
*На коніку прыязджаў,*
*Хлеба-солі дасылаў*
*І ўсякія пашаніцы,*
*І ярыя пшаніцы.*

**22** (пятніца). **Прав.** *Зачацце праведнай Ганнаю Найсвяцейшай Багародзіцы.* **Народны каляндар.** *Ганна Зімовая* («На Ганкі запрагайце каня ў санкі»).

**24** (нядзеля). **Ун.** *Нядзеля Айцоў.* **Кат.** *Посная куцця.*

**25** (панядзелак). **Кат., Ун.** *Божае Нараджэнне.* **Народны каляндар.** *Спірыдон Сонцаварот*, ад якога прыбаўлялся дзень «на адзін вераб'іны скок».

**26** (аўторак). **Кат.** *Другі дзень Божага Нараджэння.* **Ун.** *Сабор Найсвяцейшай Багародзіцы.*



**27** (серада). **Народны каляндар.** *Багатая* (Шчодрая) куцця ў каталікоў. *Сільвестр.* У сільвестраву ноч ладзілі баль, дзяўчаты варажылі.

**Вядуць: народны каляндар — Васіль ЛІЦВІНКА; царкоўны каляндар — Ірына КРЭНЬ.**

## І смех і грэх

### Прэса-куламеса

У апошні час нямала чуецца размоў пра жыццё ў розных вымярэннях, пра анамальныя часавыя падарожжы. Наш друк досыць часта паведамляе пра канкрэтныя выпадкі. Вось некаторыя прыклады.

#### Гэта трэба ўмець!

Беларуская паэтэса Наля Маркава нарадзілася ў 1906 годзе. А як паведамляе энцыклапедычны бібліяграфічны слоўнік «Беларускія пісьменнікі», т. 4, с. 215, шэсць вершаў надрукавала яшчэ ў 1829 годзе, г. зн. за 77 год да нараджэння.

Каб не была жанчынай, варта было б сказаць: ну і спрытнюга!

#### Вялікае Княства Літоўскае ўзору 1937 года

Першыя перасяленні татар адбыліся ў 1931 і 1396 гадах... У 1937 годзе вялікі «палон» татар быў пасЕлены на рацэ Віліі... Прыкладна ў той жа час з Крыма ў Вялікае Княства Літоўскае перасялілася каля 400 сем'яў караімаў...

*«Чырвоная змена», 23.08.1995.*

Так, так, на вялікі жаль, крымскія татары і сёння не маюць сталага прытулку.

**Я.К.**

### Пачутае «У Лявона»

#### Як дома

Адміністратар шынка вітае новага госця і гаворыць яму:

— Добра, што Вы зайшлі да нас. У нашым шынку Вы будзеце пачувацца, як дома.

— Няўжо і ў вас гатуюць нясмачныя стравы?

#### Патрэбны перакладчык

Маладзіца да прыяцелькі, калі тая, непрычасаная і невясёлая, сядае за столік:

— Ты заўсёды вясёлая, а сёння такая заклапочаная. Што за прычына? Штось на працы?

— ...Шукаю перакладчыка.

— Навошта табе? Збіраешся ў шоп-тур?

— Ды не. Проста мы з мужам перасталі адзін другога разумець.

#### Авёс не для Пегаса

Сябры, ужо вясёлыя, вітаюць вядомага паэта, што зайшоў у шынок:

— Налівайце яму чарку... Дзе ты так змок — хіба стаяў пад рынай?

— З дому ішоў пешкі...

— А што, твой Пегас ужо не возіць?

— З таго часу, як у крамах сталі прадаваць нямецкі авёс, я вырашыў, што ён павінен араць — паслаў яго ў вёску.

#### Джэнтльмен

Малады оперны спявак прыйшоў у шынок з дзвюма прымадоннамі. Да яго падляцела маладая журналістка:

— Прабачце, шаноўны. Адно пытанне ад імя чытачак часопіса «Немаладая гаспадыня». Як Вы ставіцеся да старых жанчын?

— А Вы лічыце, што я малады?

— Вядома, так!

— Але ж няма жанчын старэйшых за мяне.

#### Вострая прыправа

Гость замаўляе афіцыянту на вячэру:

— Бутэльку «Тройчы дзевяць», калдуны з грыбамі, ласіныя губы ў смятане... А якія ў вас прыправы?

— Кетчуп.

— Не, гэта не падыходзіць. Можа ёсць што вастрэйшае?

— Няма нічога, — адказвае афіцыянт і пасля хвіліны роздуму дадае: — Хіба што бітае шкло...

#### Песіміст

Адзінокі наведвальнік шынка, гледзячы ў акно:

— У Менску ўсё больш і больш насельніцтва. А людзей усё менш і менш.

#### Аптыміст

Сталы бывалец шынка, седзячы ў вясёлай кампаніі:

— Так, у Менску ўсё менш і менш людзей. Але затое ўсё больш і больш нягоднікаў.

#### З ног да галавы

Маладзіца хваліцца сяброўцы:

— Мой муж з адной сваёй зарплаты адзеў мяне з ног да галавы.

— А што ён табе купіў? — пытаецца тая, аглядаючы яе.

— Калготы і заколку ў валасы.

— А я падумала, што ты навучылася вочкі ў калготах падымаць...

### Пародыі

**Янусь МАЛЕЦ**

## Святая праўда

*Мне верай Каложа паможа,*
*А Белая вежа дасць зроку,*
*Каб я ад святой нашай праўды*
*Нідзе не сыходзіў далёка.*

**Казімір КАМЕЙША.**

Калажа прыпомніцца раптам
І іншых мясцінаў куточкі,
Прымроіцца вёсачка, хаты
І з комінаў к небу дымочкі.

У думках у госці паеду
Туды, дзе бываў неаднойчы,
І, трапіўшы там у бяседу,
Чытаць буду вершы паўночы.

І, здзіўлены рыфмамі, хтосьці
Са мной будзе піць без супынку,
І ледзь не ўтаплюся ў балоце,
Як выйду за хлеў на хваліну.

І ў памяці будуць правалы, —
Яна ж не камп'ютэр якісьці, —
Прыпомню: было ўсё-ткі мала...
Не ўспомню: а колькі ж мог выпіць?

Як добра, што ўсё гэта ў думках, —
Такія няўклюдныя госці! —
А то пры падобных варунках
Ад сораму б збег з «Маладосці».

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп.
Адказны сакратар Здзіслаў Сіцька.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 6041

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 4551 паасобнік.
Падпісана ў друк 27.11.1995 г. у 15 гадзін.